# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА




ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

№ 23 (3693) 5 - 11 ЧЭРВЕНЯ 1993 г.



# ДЗЯКУЙ, МАЛАДЗЕЧНА! ДЗЯКУЙ, ФЕСТЫВАЛЬ!

Маладзечна паступова вяртаецца да свайго звыклага, працоўнага рытму. Праўда, пакуль яшчэ ўсё нагадвае тут аб трох днях, якія... не, не свет ўскалыхнулі, а проста яшчэ раз нагадалі, што мы, беларусы, вельмі ж прыбядняемся, што ёсць у нас нямала чароўных песень і цудоўных вершаў, якія лёгка і хораша кладуцца на музыку, а таксама нямала таленавітых выканаўцаў, маладых спевакоў, здольных надаць песням моцныя і шырокія крылы.

Аднак адлік гэтым святочным дням пачаўся не ў Маладзечне, а ў стольным Мінску. У апошні дзень мая, на самым зыходзе яго, калі вечаровыя прыцемкі ахуталі паўтарамільённы горад: ля помніка Максіму Багдановічу, непадалёку ад тэатра оперы і балета сабраліся сотні людзей. Яркія юпітэры выхоплівалі засяроджаныя твары, бліскучыя касцюмы артыстаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам М. Фінберга. Палыхала ў паветры бел-чырвона-белае палотнішча — сімвал свабоднай, незалежнай Беларусі.

Тут адбыўся паказ рок-оперы «Максім» І. Паліводы /лібрэта паводле вершаў аўтара «Зоркі Венеры» стварыў Л. Пранчак/. Опера ў выкананні аркестра і салістаў ля помніка М. Багдановічу стала своеасаблівым запрашэннем у Маладзечна, на фестываль. Зрэшты, запрашэнне прагучала і афіцыйна — з вуснаў мэра Маладзечна, народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Г. Карпенкі...

●

А ў Маладзечне тым часам ішла апошняя падрыхтоўка да ўрачыстых і адначасова творча-працоўных дзён. Пахарашэў горад, папрыгажэў: падфарбаваўся, падмаладзіўся, апрануў святочныя строі. А яго сцэнічную пляцоўку — гарадскі стадыён, — кажучы словамі галоўнага рэжысёра фестывалю Б. Бахціярава, можна параўнаць з той, што ў Сопаце, а, можа, нават назваць і лепшай.

Стадыён і стаў познім вечарам 4 чэрвеня месцам урачыстага адкрыцця фестывалю.

Да прысутных звярнуўся Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч. Вячаслаў Францавіч, у прыватнасці, сказаў: «Зараз людзям на Беларусі жывецца нялёгка, і каму-небудзь можа здацца: сёння не да песень. Але бывалі ў нашага народа і куды больш цяжкія часіны, аднак ён заўсёды адольваў нягоды. Перакананы, так будзе і на гэты раз. Мы абавязкова пабудуем сваю незалежную дзяржаву такім чынам, каб усе ў ёй пачуваліся добра.

...Вельмі прыемна, што, нягледзячы на ўсе складанасці сучаснага жыцця, на ўсе цяжкасці і турботы, ёсць у нас людзі, якія па-сапраўднаму любяць і шануюць беларускую песню, паэзію і здолелі наладзіць гэта цудоўнае свята.

Такія святы, як сённяшняе, вяртаюць нас да нашых вытокаў, раскрываюць таленты, на якія так багата наша Беларусь. Урад ухваляе гэту падзею і надалей будзе клапаціцца пра тое, каб беларускае мастацтва развівалася і ўзбагачала нас, спрыяла духоўнаму адраджэнню...

Шчыра зычу вам, каб гэтае свята песні стала добрай традыцыяй, а ваш горад значыўся фестывальным, горадам адкрыцця новых талентаў, новых імёнаў».



Вітаў маладзечанцаў, арганізатараў, удзельнікаў і гасцей свята старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, народны дэпутат рэспублікі Н. Гілевіч. «У кожнага народа на зямлі, — сказаў ён, — свае песні, гэтаксама як свой лёс, сваё жыццё, свая гісторыя. Свае песні і ў нас, на Беларусі... На нашых песнях ляжыць адбітак нашага лёсу. Вядома, песня перш за ўсё нараджаецца з пачуцця радасці. Радасці за тое, што ёсць вось гэты свет вакол нас, што ёсць гэтае неба, ёсць зоры і сонца і ёсць людзі — такія, як сонца і зоры... У падобныя святочныя моманты верыцца, што наша жыццё, наш лёс будуць

*(Працяг на стар. 2-3)*



КОЛА ДЗЁН

***Што было на тыдні? Адсвяткавалі Сёмуху, сустрэлі новы скачок цэн, чакалі пацяплення... Прымалі законы, лічылі грошы, віталі замежных гасцей, стаялі ў чэргах. Усё было як заўсёды — жыццё працягвалася. Наша жыццё...***

## ЭКАНОМІКА ТЫДНЯ

Урадам прынята рашэнне павысіць тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі ў 3—5 разоў. Таксама з 5 чэрвеня адпушчаны на волю рознічныя цэны на ялавічыну, свініну, каўбасу, масла і мясныя паўфабрыкаты. Значна падаражэлі малако і цукар.

Такім чынам, жыццё наша, і без таго несалодкае, пагражае стаць і зусім беспрасветным. Эканамічны крызіс не толькі захоўваецца, але і катастрафічна паглыбляецца. Магчымасці гэтага ўрада кантраляваць сітуацыю амаль вычарпаны. На мяжы і цярпенне падаткаплацельшчыкаў.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі расцаніла чарговы скачок цэн як грубае парушэнне генеральнага пагаднення паміж урадам, працадаўцамі і прафсаюзамі, якім дапускаецца не больш як 30-працэнтны разрыў паміж даходамі насельніцтва і ростам цэн. На парадку дня — пытанне аб бестэрміновай забастоўцы.

Патрабаванні прафсаюзаў падтрымаў выканкам Партыі народнай згоды, які ў сваёй заяве зазначыў: «Мы звяртаемся да розуму і сумлення дэпутатаў і членаў урада: пакуль не грымнуў буйны сацыяльны канфлікт, адчыніце дарогу да канстытуцыйнага вырашэння супярэчнасцей, якія абвастраюцца. Вярхоўны Савет павінен прызначыць дату новых выбараў».

## БУДОЎЛЯ ТЫДНЯ

Беларускія і германскія прадпрымальнікі, міністры, рэлігійныя дзеячы, дыпламаты ўрачыста адзначылі ўзвядзенне пад дах Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра, якое адбылося ў сталічным мікраараёне «Паўднёвы Захад».

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Рэспубліку наведаў саветнік Прэзідэнта ЗША па пытаннях СНД Строўб Толбот. У паведамленнях з гэтай нагоды настойліва падкрэслівалася, што амерыканскі госць — блізкі сябра Біла Клінтана. Праграма візіту ўключае перамовы з лідэрамі беларускай дзяржавы.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Абапіраючыся на японскі вопыт, рост захворванняў шчытападобнай залозы /пасля чарнобыльскай катастрофы. — **Рэд.**/ чакалі дзесьці гадоў праз 10—15 пасля выбуху. Але ўжо праз чатыры гады статыстыка дала нам сумныя лічбы, якія няўмольна сведчылі, што на Беларусі гэта адбылося значна раней. Нам доўга ніхто не верыў. Асабліва ўпарціліся спецыялісты МАГАТЭ. Яны даказвалі, што гэта выпадковы ўздым захворвання, які не звязаны з Чарнобылем. Але наступны 1991 год даў яшчэ больш значны рост ракавых пухлін у дзяцей. У большай ступені гэта закранула Гомельскую і Брэсцкую вобласці. Сёння нашы дадзеныя пацверджаны экспертамі дзвюх вельмі прадстаўнічых камісій Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.

...У Японіі адбыўся выбух, і ўсё на гэтым скончылася. Нас жа пасыпала радыеактыўным попелам каля трох месяцаў».

*/З інтэрв'ю дырэктара Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра пухлін шчытападобнай залозы прафесара Яўгена Дзямідчыка «Народнай газеце»/.*

## «ПРАПАНОВА» ТЫДНЯ

8 чэрвеня пачаўся летні прызыў ва Узброеныя Сілы Беларусі. Тым часам пытанні ваеннага будаўніцтва абмяркоўваліся на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, дзе з дакладам «Аб ходзе рэфармавання і скарачэння Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь» выступіў міністр абароны П.Казлоўскі. Прэзідыум Саўміна накіраваў на разгляд парламента прапанову «абвясціць 23 лютага «Днём абаронцаў бацькаўшчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь».

## КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Многімі заўважана, што раней ліст, пасланы за 5 капеек, даходзіў да адрасата значна хутчэй, чым зараз за 20—30 рублёў. У гэтым няма нічога дзіўнага, бо, напрыклад, у Піцер карэспандэнцыя дастаўлялася непасрэдна, прамым цягніком. Зараз жа ўсё адпраўляецца спачатку ў Маскву і там ляжыць амаль тыдзень.

Дарэчы, паводле слоў міністра сувязі і інфарматыкі Беларусі Івана Грыцука, кожнае другое пасланне, асабліва за мяжу, — ускрываецца. Аматары пажывіцца шукаюць у канвертах долары.

КОЛА ДЗЁН

# САМАЕ СКЛАДАНАЕ — СПЕЦСЛУЖБЫ І ГРАШОВА-КРЭДЫТНАЯ ПАЛІТЫКА

Мінулы парламенцкі тыдзень пакінуў уражанне вельмі кволай дынамікі і нейкай прыхаванай напружанасці. Магчыма, гэта звязана з тым, што народным дэпутатам былі прапанаваны законапраекты аб такіх дзяржаўных структурах, дзейнасць якіх доўгі час, мякка кажучы, не афішыравалася.

Так з абмеркавання давялося зняць многія артыкулы праекта Закона «Аб Камітэце дзяржаўнай бяспекі». Прычына — нявырашанасць пытання, каму павінен падпарадкоўвацца гэты орган — Вярхоўнаму Савету ці Савету Міністраў.

Спрэчкі выклікала і пытанне аб контрразведцы. Сярод альтэрнатыўных прапаноў была і такая: перадаць гэта ведамства Міністэрству абароны.

На сваю карысць паспрабавалі перапісаць законапраект дэпутаты, якія маюць дачыненне да астатніх сілавых міністэрстваў — ім вельмі не хацелася, каб і на будучае за супрацоўнікамі гэтых сацыяльных інстытутаў сачыла пільнае вока КДБ. Прапановы не прайшлі. І дзякаваць Богу. Не, я не за манаполію КДБ ва ўсіх сферах нашага жыцця, але ж звесткі аб хабарніцтве і шматлікіх злоўжываннях у згаданых міністэрствах і камітэтах /асабліва ў Мінабароны/ міжволі падводзяць да думкі, што хтосьці павінен за імі наглядаць. Не кажу ўжо аб разведках іншых дзяржаў, якім можа падацца цікавым жыццё нашых спецслужбаў.

Надзвычай хутка Вярхоўны Савет прыняў Закон «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь». Пастановай парламента ён уведзены ў дзеянне.

Хутка быў прыняты і Закон «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь». А вось спрэчкі па справаздачы Нацыянальнага банка Беларусі аб рэалізацыі грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь за 1992 год і па дакладзе аб асноўных напрамках грашова-крэдытнай палітыкі рэспублікі на 1993 год зацягнуліся.

Альтэрнатыўны праект па апошнім пытанні падрыхтаваў дэпутат Уладзімір Новік. Адзін з асноўных яго пунктаў — увядзенне з 1 жніўня гэтага года беларускай валюты. Міністр фінансаў С.Янчук у сваім выступленні сказаў з гэтай нагоды, што ўводзіць беларускія грошы не мае сэнсу, пакуль не будзе падпісана эканамічнае пагадненне з Расіяй. Чакаецца, што гэта адбудзецца неўзабаве. І калі Беларусі паспрабуюць навязаць нявыгадныя ўмовы, то тады і паўстане пытанне аб уласнай валюце. «Тэхнічна мы да гэтага амаль што гатовы», — падкрэсліў С.Янчук.

Сваю думку на гэты конт выказаў і старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч. «Фактычна ў нас ёсць свая валюта і называецца яна «безнаяўны беларускі рубель». Ёсць у яе і свой курс. У наяўнасці знаходзяцца і разліковыя білеты. Па нашых дадзеных іх у насельніцтва 80 працэнтаў ад усёй колькасці грошай. Такім чынам, мы ў стане перайсці на сваю валюту. Але з гэтага нічога не атрымаецца, калі не будуць прыняты іншыя меры».

Канчатковае прыняцце рашэння па гэтых пытаннях парламентам пакуль што было адкладзена.

А на заканчэнне не магу не згадаць выступленне ў розным народнага дэпутата Ігара Гермянчука. Сутнасць яго ў тым, што ў беларускамоўным тэксце Дагавора аб перадачы пад юрысдыкцыю Расіі стратэгічных сіл ёсць аж 17 неадпаведнасцей у параўнанні з рускім тэкстам. Цікава, дарэчы, як абодва тэксты ў такім выпадку могуць мець «аднолькавую сілу»?

**Яўген ЛЮТЫ**

# ЗНОЎ — ГРАМАДСКІ

***По ініцыятыве камісіі БНФ па культуры і гісторыі створаны нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 года на Беларусі. Зноў, як і ў час святкавання 75-годдзя БНР — грамадскі.***

У склад аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі БНФ «Адраджэнне», Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, Згуртавання беларускай шляхты, Беларускага згуртавання вайскоўцаў, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Беларускай сялянскай партыі, Беларускага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л. Сапегі, Акадэміі навук Беларусі, Беларускага краязнаўчага таварыства, Камісіі па культуры Мінгарсавета, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Саюза мастакоў Беларусі, Саюза кампазітараў Беларусі, Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі, Беларускай грэка-каталіцкай царквы, Беларускага евангелічнага рэфармацкага збору, Выбранецкіх шыхтоў Беларусі.

Старшынёй аргкамітэта абраны Мікола Купава — сябра Саюза мастакоў Беларусі.

На пасяджэнні аргкамітэта 3 чэрвеня створаны рэдакцыйная, выдавецка-інфармацыйная, пошукава-мемарыяльная, навуковая камісіі; разгледжана магчымая праграма святкавання.

Аргкамітэт прапануе асноўныя мерапрыемствы святочнай праграмы правесці на Беларусі ў красавіку, траўні — верасні 1994 г.

# ДЗЯКУЙ, МАЛАДЗЕЧНА! ДЗЯКУЙ, ФЕСТЫВАЛЬ!

*(Пачатак на стар. 1)*

лепшымі. І песня, музыка, паэзія дапамогуць у гэтым. Дадуць нам натхненне, акрыляць на працу, на багаты плён, бо мы хочам жыць па-чалавечы».

Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Я. Вайтовіч выказаў упэўненасць, што фестываль стане сапраўдным нацыянальным святам песні і паэзіі, бо ў ім закладзена цудоўная ідэя — творчасцю маладых сцвярджаць характво Бацькаўшчыны, любоў да мовы, да нашай гісторыі.

«У добры шлях табе, фестываль!» — толькі сказаў гэтыя словы гаспадар горада Г. Карпенка, як палілася мелодыя песні пра Маладзечна:

Маладзечна, Маладзечна —
Мой жаданы родны кут!
Так гасцінна і сардэчна
Мне бывае толькі тут...

Урачыстае адкрыццё адбылося... Мелодыя змяняла мелодыю, выканаўца — выканаўцу. Сузор'е талентаў — і тых, якія ўжо не маюць патрэбы ў афішыраванні, і тых, што засвяціліся толькі першымі сваімі промнямі.

З добрымі пажаданнямі выступалі таксама І. Лучанок, В. Вуячыч, У. Карызна...

Да позняй ночы людна было на гарадскім стадыёне.

●

А тым жа днём, толькі раней, у 17 гадзін, і там жа, на стадыёне, адбылося, так бы мовіць, рабочае адкрыццё фестывалю. Там прайшоў 1 тур конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні. Яму папярэднічаў адборчы тур, прытым вельмі строгі — са 152 спевакоў атрымалі права прыехаць у Маладзечна толькі 18 чалавек. Спаборнічалі яны ў двух узроставых групах: ад 13 да 18 гадоў і ад 18 да 25...

1 тур адолела 10 выканаўцаў, яны і прадоўжылі спаборніцтва, назаўтра, а 18 гадзіне 5 чэрвеня. У гэты ж дзень адбыліся яшчэ два фестывальныя мерапрыемствы: вялікі канцэрт беларускай песні і канцэрт «Джаз апоўначы». Апошні, па сутнасці, пазначаны ўжо быў 6 чэрвеня, бо працягваўся да світанку.

Што да першага мерапрыемства, дык у ходзе фестывалю назва яго канкрэтызавалася — «Беларуская песенная спадчына і сучасная беларуская песня». Нехай сабе і «пункцірна», але быў узноўлены доўгі шлях, пройдзены беларускай песняй. Аб тым, што гэты шлях сапраўды доўгі, гаворыць ужо самі прозвішчы выканаўцаў, якіх згадалі З. Бандарэнка і А. Ярмоленка: Л. Александроўская, К. Ясінская, В. Фурс, В. Глушакоў, В. Кірычэнка, Ю. Смірноў, А. Падгайскі... Ды хіба ўсіх пералічыш?! Тое ж самае тычыцца і кампазітараў, і паэтаў...

●

Фестывальны вечар 6 чэрвеня пачаўся прэм'ерай оперы-песні «Беларушчына» І. Паліводы, у аснову якой пакладзены вершы Я. Купалы /лібрэта Л. Пранчака/, тыя вершы, пра якія доўгі час шырокі чытач не ведаў.

А пасля пачаўся вялікі канцэрт «Песні народаў /?/ маёй рэспублікі». Выконваліся рускія, украінскія, літоўскія, польскія песні. Праўда, далёка не заўсёды можна было здагадацца, чыя гучыць песня. Чаму б было не аб'яўляць, не назваць і саму песню, і прозвішча кампазітара, паэта? У самым пачатку канцэрта ў якасці выканаўцаў былі названы Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам М. Фінберга і салісты. А што выконваецца? Тут ужо, як кажуць, ведай сваіх у твар!

●

6 чэрвеня стала апошнім днём свята: прайшоў вялікі гала-канцэрт лаўрэатаў і гасцей фестывалю. Вядома ж, былі названы пераможцы. Спачатку — дыпламанты фестывалю. Гэта — самы юны яго ўдзельнік Я. Чуб з Віцебска /атрымаў баян, а таксама 77 тысяч рублёў ад рэдакцыі газеты «Рэспубліка»/, А. Пятрова /Віцебск, сталовы сервіз/, І. Галімава /Магілёў, тэлевізар «Гарызонт»/.

Званні лаўрэатаў фестывалю і трэція прэміі прысуджаны А. Дзябышу /Мінск, тэлевізар «Гарызонт»/, А. Дзіве /Віцебск, кароткахвалевая печ/, А. Ларушынай /Магілёў, пральная машына «Вятка-аўтамат»/.

Адпаведна званні лаўрэатаў і другія прэміі атрымалі М. Зіміна /Мінск, відэамагнітафон/ і Ю. Урманава /Бабруйск, тэлевізар «Віцебск»/.

Анжэліка Ют заваявала першае месца /Мінск, прайгравальнік кампакт дыскаў і чатыры дыскі/.

Гран-пры фестывалю /«Жыгулі» дзевятай мадэлі/ прысуджаны А. Саўленайтэ. Яна — салістка аркестра М. Фінберга, скончыла Гродзенскае культасветнае вучылішча, з'яўляецца лаўрэатам

Ліст у рэдакцыю

# ФУНДАТАР — А. ЛУК'ЯНЧЫК

Паважаны спадар рэдактар!

У нумары «ЛіМа» ад 7 мая г. г. змешчана невялікая інфармацыя аб уручэнні мною ў Мастацкім музеі яго дырэктару А. Ю. Карачуну чэка на 10 тысяч долараў, якія павінны быць скарыстаныя на рэстаўрацыю Мірскага замка.

Гэты чэк я перадаў ад імя прадстаўніка беларускай эміграцыі, не назваўшы яго прозвішча, і гэта невыпадкова. Толькі 20 мая мы атрымалі ад яго дазвол каб выкарыстаць яго імя ў беларускай прэсе.

Цяпер я магу паведаміць, што з гэтай высакароднай ініцыятывай выступіў наш зямляк А. Лук'янчык, буйны амерыканскі бізнесмен.

Карыстаючыся нагодай, хацеў бы ад імя беларускай грамадскасці шчыра падзякаваць гэтаму чалавеку, які з'яўляецца адным з першых замежных прыватных спонсараў рэстаўрацыі гэтага выдатнага гістарычна-архітэктурнага помніка Беларусі.

**З павагай міністр замежных спраў П. КРАЎЧАНКА**

# ПЕРШАЧАРГОВЫЯ ПЫТАННІ

5 чэрвеня адбылося пасяджэнне Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Рада прыняла пастанову, датычную праблемы прыватызацыі, і зацвердзіла дзве ўхвалы /пазіцыі/: аб адносінах да становішча ва ўзброеных сілах краіны і па пытанні аб увядзенні пасады прэзідэнта ў Беларусі.

У пастанове, у прыватнасці, сказана: «... Мы не маем права забываць, што за гады савецкай улады большасць насельніцтва была фактычна абрабавана дзяржавай /.../. Дзяржава, якая сапраўды хоча стаць прававой і дэмакратычнай, павінна выканаць свой маральны абавязак і вярнуць народу хаця б некаторую колькасць адабранай у яго ўласнасці». Таму 50 працэнтаў прыватызуемай маёмасці павінна быць перададзена народу шляхам імянных прыватызацыйных чэкаў. Дзеля гэтага дэпутацкая фракцыя БСДГ мае выказаць сваю пазіцыю ў Вярхоўным Савеце Беларусі і дамагчыся ад В.Кебіча, каб той нарэшце сказаў нешта ўразумелае і канкрэтнае аб урадавай канцэпцыі прыватызацыі. Выканаўчы Камітэт Цэнтральнай Рады БСДГ і мясцовыя філіі будуць арганізоўваць выступленні ў сродках масавай інфармацыі па праблеме прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці.

Ва ўхвале адносна становішча ў войску прыгадваюцца факты цкавання патрыётаў Беларусі з боку Міністэрства абароны /нібыта «за палітычную дзейнасць»/ і патуранне антыбеларускім сілам /«Славянскому собору», «Союзу офицеров»/, якія адкрыта рыхтуюць ва Узброеных Сілах Беларусі «пятую калону», з дапамогай якой мараць адрадзіць Расійскую імперыю. Скрозь пальцы глядзіць міністэрства на хабарніцтва, карупцыю і раскраданне маёмасці ў войску. Павінныя ў гэтых злачынствах афіцэры і генералы могуць не хвалявацца за свае пагоны і пенсіі. Нават калі іх і звальняюць, дык звычайна з гонарам, «з падзякай».

БСДГ прапануе ўнесці ў Закон «Аб статусе ваеннаслужачых» канкрэтнае вызначэнне форм палітычнай дзейнасці, забароненых вайскоўцам, якое б выключала магчымасць маніпулявання заканадаўствам.

Пытанне аб прэзідэнцтве, на думку Цэнтральнай Рады БСДГ, трэба вырашаць у шырокім кантэксце гістарычных традыцый нашага народа і ягонага сённяшняга стану. Мадэль праўлення, прапанаваная Грамадою: усенародна абраны прэзідэнт і прафесійны парламент. Прэзідэнт з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, кіраўнік выканаўчай улады — прэм'ер-міністр. Узаемная адказнасць заканадаўчай і выканаўчай улад дасягаецца магчымасцю парламента адправіць у адстаўку ўрад і правам прэзідэнта распусціць парламент.

**НАШ КАР.**

Надзённае

# ДАРОЖНЫЯ ЭКСПРОМТЫ

**1.**

**«Мы багацейшыя цяпер за каралёў, --**
**Казала мне дасведчаны бухгалтар, —**
**Яны стаўлялі бюст за тысячу рублёў,**
**А я за тысячу куплю сабе**
**бюст-гальтар».**

**2.**

**Чаго нам толькі не плятуць**
**Кіраўнікі і бізнесмены!**
**У іх валлё і чэравы растуць,**
**А ў нас растуць штодзённа цэны.**

**3.**

**Даношваюць старыя транты**
**Ўрачы, паэты, паштальёны,**
**А маладыя камерсанты**
**З паветра здабылі мільёны.**

**4.**

**Не Багі ў пякельнай крутаверці**
**За уладу зноў вядуць вайну.**
**Страшна жыць, яшчэ страшней**
**памерці,**
**Бо не зарабіў і на труну.**

**5.**

**Ніколі Бос не ходзіць босы,**
**Бо мае вілу і манеты,**
**«Рашае прэжния вапросы»,**
**Змяніўшы толькі кабінеты.**

**6.**

**Не кожны з нас прыхільнік навіны,**
**Не кожны ў новым радасці знаходзіць.**
**Вось я іду праспектам Скарыны,**
**А нехта Ленінскім — хадзіў і ходзіць.**

**7.**

**Нас дабіваюць з новай сілай,**
**Хоць просім літасці у Бога**
**Малітвай: «Госпадзі, памілуй,»**
**А Ён не мілуе нікога.**

**8.**

**Крáдуць зверху, крáдуць знізу**
**Чынадралы і падлізы,**
**Так і крадуць, як і кралі,**
**Бо нікога не каралі.**
**Хто б ім тэрмін мог прышыць,**
**Той таксама хоча жыць —**
**Смачна есці, смачна піць,**
**Мерсэдэс сабе купіць.**
**Пры старым і новым ладзе**
**Той, хто краў, і сёння крáдзе.**
**Нам дасталіся атопкі**
**І ад сытых пацяробкі...**
**Так мы і дайшлі да кропкі,**
**Бо не ўмеем лгаць і красці,**
**Толькі ў тым і маем шчасце —**
**Хлеб і доўгае цярпенне,**
**І звычайнае сумленне.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**



Рэспубліканскага тэлевізійнага конкурсу эстраднай песні. Ёй жа прысуджаны і галоўны пераходны прыз «Залатая галінка папаратніку». Ён, дарэчы, па эскізах маладзечанскага мастака Ю. Герасіменкі-Жызнеўскага, выкананы студэнтамі Беларускай акадэміі мастацтваў.

●

У фестывалі прынялі ўдзел, акрамя канкурсантаў, не толькі знакамітыя прафесійныя выканаўцы і лепшыя калектывы рэспублікі, а і ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці Маладзечна, спевакі з краін СНД. Пералічыць усіх наўрад ці магчыма. Скажам галоўнае: беларуская песня зблізіла, згуртавала многіх і многіх.

Фестываль стаўся і проста масавым відовішчам. Відовішчам, зазначу, нацыянальным. Дзесяткі, сотні людзей далучыліся ў Маладзечне да свайго, беларускага. І не толькі праз песню. Садзейнічала і тое, што падчас фестывалю можна было набыць арыгінальныя сувеніры. Прынамсі, талісманам свята стала гліняная птушачка. Яе задумаў, ажыццявіў эскіз мастак Э. Асановіч, а вырабілі ў колькасці адной тысячы штук на Радашкавіцкім заводзе мастацкай керамікі. Яна стала талісманам не толькі для маладых выканаўцаў /для каго ў першую чаргу прызначалася/, а для ўсіх, каму пашчасціла набыць гэты сувенір. Даспадобы прыйшоўся многім і вялікі медаль, таксама выкананы спецыяльна да свята, і буклет, падрыхтаваны Маладзечанскім прэс-цэнтрам фестывалю і рэдакцыяй «Маладзечанскай газеты» /ён даў вычарпальную інфармацыю пра колішняе і цяперашняе культурнае жыццё Маладзечаншчыны/.

Безумоўна, вынікі свята будуць яшчэ асэнсаваны, вызначацца яго набыткі і пралікі. Але ўжо сёння відавочна: свята, што пачыналася як Фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-93», завяршылася як Першы нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі. Значыць, будуць і наступныя. А яны немагчымы і без засваення ўрокаў першага.

Так, у далейшым, думаецца, варта паклапаціцца, каб слова «паэзія» ўспрымалася не проста звычайнай... прывязкай, каб наладзіць і своеасаблівы творчы конкурс маладых паэтаў, найперш паэтаў-песеннікаў.

Калі Маладзечна замацуе за сабой статус фестывальнага, дык не лішняй будзе і арыгінальная песня пра гэты цудоўны горад. Не бяда, што ўжо ёсць, прытым і не адна. Лепшая ж можа нарадзіцца ў выніку конкурсу на песню пра Маладзечна...

А скончыць рэпартаж хочацца словамі, сказанымі на ўрачыстым закрыцці Г. Карпенкам: «Ні ў кога ўжо не выклікае сумнення, што ёсць у нашай дзяржаве беларуская песня. Дзякуй табе за гэта, фестываль! Дзякуй, Маладзечна!»

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт «ЛіМа»**

# «ШТО ТЫ СПІШ»?

## ЗА РАДКОМ КУПАЛАВАЙ ПАБУДКІ

***З удзячнай пашанаю пакідаю закладку ў томіку твораў Купалы. Якая ашаламляльная нечаканасць верша! На колькі ж гадоў геній паэта міжволі апярэдзіў час, каб так вось, на другім канцы веку, хвалююча-набатна прашамацець неўміручай старонкай Поўнага збору!..***

***Дальбог, падумалася яшчэ, можна на год адкласці ўбок усе газеты, не ўключаць тэлевізар і радыё, а чытаць аднаго Купалу — і востра адчуваць сённяшні час, і нават лепш разумець яго, і адрозніваць — дзе ёсць дабро і дзе зло, дзе праўда і дзе мана.***

### «А НЕ ГРОШЫ Ж ТВАЕ ТАМ У БАНКУ ЛЯЖАЦЬ?»

Жыццё не вучыла нас лічыць грошы. Не таму, што ўсім іх ставала, а таму, што грошы лічыць было як бы непрыстойна. Дзяржава, маўляў, спраўна лічыць за нас. Ды і які сэнс вучыцца фінансаваму рахункаводству, калі «мярзотныя паперкі» павінны вось-вось сысці з явы як рэлікт старога свету. Светлая будучыня ўяўлялася ашчаслівулена-бязгрошавай і, як помніцца са школьных гадоў, паўставала на хрушчоўскіх далягядах словамі чырвоных лозунгаў: «Камунізм пабудуем праз дваццаць гадоў».

Аднак абяцаная светлая эра даўно мінула, а грошы засталіся, нікуды не дзеліся. І сёння я вымушаны міжволі пасоўваць убок засвоеныя са школьнай лаўкі ўрокі, апускацца на грэшную зямлю з завоблачных высяў цнатлівай недасягальнасці, адчуваючы ўсё больш, як груба і беспардонна са мною згулялі. І не збіраюцца спыняць гэтую гульню без правіл.

А рэч у чым?

Гады тры таму, калі інфляцыйная конніца яшчэ толькі-толькі імкнулася панесціся ў рынкавыя прасторы, у наш урад, у Вярхоўны Савет ішлі просьбы-маленні не дапусціць абясцэньвання людскіх зберажэнняў, захаваць нейкім чынам іх плацежаздольнасць перад маючым адбыцца адпушчэннем цэнаў. Памятаю, па прамой лініі «Урадавы тэлефон» /балазе, працаваў тады ў прэс-службе Савета Міністраў/ тэлефанавалі пенсіянеры, маладажоны, адзінокія маці, шматлікія грамадзяне, і хто з жалем, хто з жалезам у голасе пыталіся, ці робіць што ўрад, каб не даць у крыўду ні ў чым не вінаватых жыхароў рэспублікі. За прамілы бог прасілі ахаваць ад усепаглынальнай інфляцыі іх «кроўныя», з мазаля, 3-5-10 тысяч рублёў, пакладзеныя ў Ашчадбанк.

Зрэз грамадскага ўзрушэння старанна занатоўваўся на дыктафон, перапісваўся і ў «жывым», без стылістычнага камуфляжу выглядзе даводзіўся да прэм'ер-міністра /сённяшняга/ і яго намеснікаў.

Як было не зразумець тое шчыра-аголенае пачуццё людзей! Адчай, слёзы, горыч — усё ж адкрытым тэкстам. Настаўніца-пенсіянерка роспачна пыталася: «Думала, спадзявалася, што хоць пад старасць куплю гарнітур мяккай мэблі. А тут глядзі, каб на пахаванне хапіла маіх запасаў...» Маці, у якой двое дзяцей-інвалідаў, у слязах запэўніла, што калі ўрад не выратуе яе грошы, яна ўчыніць на плошчы Незалежнасці акт самаспалення...

Аднак дзяржаўныя мужы, валодаючы дастатковым прагнозам поўнага абясцэньвання сумленных укладаў грамадзян, па сутнасці і пальцам не паварушылі, каб іх абараніць. Затое, валодаючы дастатковым прагнозам на перспектыву, уладныя структуры ў асобе спрытных завіханцаў-фірмачоў паспелі паклапаціцца пра ўласныя тылы, своечасова запачаткаваўшы немалыя капіталы.

Вось бы гэтага спрыту ды кемнасці ахвяраваць дзеля інтарэсаў неахаванага чалавека, які са сваім сціплым грашовым укладам апынуўся ля разбітага карыта кволых надзей!

Тым часам кіраўнік парламента, беручы ўдзел у прамым тэлеэфіры, неасцярожна спаслаўся на адсутнасць грошай у дзяржаўнай казне, што, маўляў, не дазваляе сплаціць матэрыяльны доўг укладчыкам суверэннай краіны. Але ж крок за крокам, якія робіць сёння Беларусь у бок нашай **беларускай** дзяржаўнасці, павінны штораз быць скіраваныя да чалавека, яго правоў. Ёсць рэчы, якія нельга нічым апраўдаць, а тым больш адхіліць. Іх можна толькі вырашыць. Своечасова, з гонарам, сцвярджаючы сапраўдную дзяржаўнасць, а не марнуючы цярплівы народ у шматгадовым чаканні і напружанні.

Людзі за гэты час паспелі прыгледзецца і зрабіць правільныя высновы. Не, гэта не простае ўпушчэнне дзяржаўна-ўрадавых кіраўнікоў, не вынік прастадушнай някемнасці. Хутчэй — працяг добра знаёмай палітыкі, фальшывай і падманнай. Мы па-ранейшаму няродныя дзеці той самай дзяржавы, якая дзесяткі гадоў спраўна лічыла грошы за нас, адкрыта рабавала ці ўпотай прысвойвала наша, народнае.

### ХТО З КІМ ЖАРТУЕ?

Даўно не чытаў урадавага афіцыёзу з алоўкам у руцэ. Прамову Вячаслава Кебіча «Аб некаторых пытаннях сацыяльна-эканамічнай і палітычнай абстаноўкі ў рэспубліцы», з якой ён выступіў на памятнай нарадзе-семінары 18 сакавіка г. г., вывучыў па ўсіх правілах незабыўнай палітасветы і захоўваю як гістарычную рэліквію. Інтуіцыя, здаецца, не падвяла: неўзабаве з'явілася нагода тое-сёе і працытаваць /пераклад з рускай; падкрэсліванні мае. — **В. Д.**/:

«...усё, аб чым я цяпер вам сказаў адносна ідэі эканамічнага саюза, з'яўляецца аднадушнай пазіцыяй ўрада і таму можа расцэньвацца як **афіцыйная заява** Савета Міністраў. Нягледзячы **ні на якое магчымае супраціўленне, крытыку і іншыя дзеянні, накіраваныя супраць данай акцыі,** мы будзем **настойліва** і **паслядоўна** рэалізаваць гэту задачу...»

«...на парадак дня паўстае **карэннае пытанне ваенна-палітычнага** характару. Я перш за ўсё маю на ўвазе **сістэму калектыўнай бяспекі**, таму што, калі гаварыць прама, то толькі калектыўная бяспека можа надзейна гарантаваць нашу незалежнасць».

«А паглядзіце, што ў нас робіцца ў маладзёжных праграмах радыё, тэлебачання. Раз-пораз гучыць **беспардоннае ачарненне ўлады** на ўсіх узроўнях. ...Атрымліваецца наогул нейкі парадокс: дзяржава фінансуе нацыянальную тэлерадыёкампанію для таго, каб гэта тэлерадыёкампанія **чарніла** гэту дзяржаву».

А тым часам да 1 красавіка было яшчэ досыць далёка. І ўсё адбывалася не ў снах, а наяве. Ніякіх табе ілюзій — чарговы «паварот» замыкаў кола, па якім мы прывыклі хадзіць дзесяткі гадоў, як ходзяць зняволеныя ў двары турмы. О, калі б гэта быў сон, жарт ці розыгрыш!.. На справе ж была рэчаіснасць, так бы мовіць, прыкрыя рэаліі, ад якіх не станавілася радасна за Беларусь незалежную.

А цяпер я задам «карэннае», як там напісана, пытанне: ці маглі пасля гэтага ўсе пагалоўна мае суайчыннікі адэкватна ўспрыняць **сапраўдны** першакрасавіцкі жарт пра нібыта маючае адбыцца афіцыйнае ўрадавае паведамленне? Я ад пачатку да канца слухаў тую перадачу «Беларускай маладзёжнай» і вельмі лёгка спрагназаваў эфект — рэакцыю разгубленасці ў пэўнай часткі людзей. З чым і павіншаваў міжволі калег з «маладзёжкі». Розыгрыш

(Працяг на стар. 4)

# «ТОЕ, ШТО МЫ РОБІМ, МАЕ ВОДГУК»

## ЖЫЦЦЁ «ГЛЫБІНКІ» Ў МАНАЛОГАХ

***Наш карэспандэнт паехала ў Браслаў не па рэдакцыйным заданні, а па ўласнай ініцыятыве, і, як высветлілася, не памылілася ў выбары геаграфічнай кропкі на карце...***

### МАНАЛОГ АПТЫМІСТЫЧНЫ

**Тамара ПАШКЕВІЧ, супрацоўніца райгазеты**

— Ці ёсць у нас змены? Ну, а як жа. Праўда, не столькі ў грамадска-палітычным плане, колькі ў галіне культуры, у поглядах людзей, у іх свядомасці. Што ні кажыце, а раён у нас парубежны, усё ж адчуваецца ўплыў Прыбалтыкі, дзе многія працэсы, як вядома, ідуць з апярэджаннем. З дапамогай дэцыметровых прыставак мы глядзім іх тэлебачанне, так што мелі магчымасць ведаць усю праўду пра падзеі ў Грузіі, Новачаркаску, іншых рэгіёнах былога СССР. Пры выбарах у Вярхоўны Савет рэспублікі ад Браслаўшчыны прайшоў дэпутат дэмакратычнай накіраванасці, і хоць ён не надта шчыруе ля мікрафона, затое мы ўпэўнены, што за калектыўную бяспеку і таму падобнае ён галасаваць не будзе.

Колькі год таму існаваў у Браславе грамадска-палітычны клуб «Час і мы». Арганізавала яго і аб'ядноўвала вакол сябе людзей супрацоўніца райбібліятэкі Вольга Ляснеўская. Сталася так, што калі яна астыла да гэтай справы /яе пакрыўдзіла адна з правяраючых/ замяніць яе не было каму. Так і распаўся наш клуб. Вось вам ілюстрацыя да ролі асобы ў гісторыі.

Другім такім прыкладам, на мой погляд, з'яўляецца Кастусь Шыдлоўскі, навуковы супрацоўнік мясцовага гісторыка-краязнаўчага музея. Менавіта па яго ініцыятыве ўжо двойчы ў нас праходзілі так званыя «Браслаўскія чытанні», на якія з'язджаліся гісторыкі не толькі з гарадоў Беларусі, але і з Санкт-Пецярбурга, Масквы, Варшавы. На археалагічныя раскопкі для папаўнення музея прыязджаў з Гародні Міхась Ткачоў са студэнтамі. Ён, дарэчы, выказваў спадзяванне, што Браслаўскі раён стане адным з цэнтраў адраджэння культуры ў нашым рэгіёне. Чытанні тыя былі для тагачасных улад, што костка ў горле, а сродкі на іх правядзенне адпускаў не аддзел культуры, а ўжо згаданы музей.

Музеем нашым, лічу, варта ганарыцца, яго вопыт пераймаюць суседнія раёны. Дырэктар музея Галіна Станіславаўна Падалян добры адміністратар і кіраўнік, яна шмат робіць для аднаўлення рамёстваў. Шыдлоўскі ж адказвае за гістарычную частку. Ён працуе ў архівах, піша падручнікі па краязнаўстве, выступае ў друку. Музей мацней, чым іншыя структуры, паўплываў на абуджэнне самасвядомасці браслаўчан, вакол яго сканцэнтравана культурнае жыццё горада. Аднак не ўсё залежыць ад нас — музея, газеты, бібліятэкі... Многія з пытанняў могуць і павінны вырашаць улады. Ну, хаця б вуліцам вярнуць гістарычныя назвы, шыльды памяняць на беларускія. Не спяшаюцца штосьці...

Наша «Браслаўская звязда» таксама не ўбаку ад падзей, рэтраградкай ніколі не была. Першай у рэспубліцы газета надрукавала артыкул М.Ткачова пра Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг, з-за чаго былы рэдактар А.Карэнька меў непрыемнасці. Заканчэнне артыкула ўсё ж знялі з паласы, яно так і не пабачыла свету.

Прыкметныя зрухі маем у асвеце. Усе дашкольныя ўстановы і амаль усе сярэднія школы раёна пераведзены на беларускую мову навучання. Загадчык аддзела народнай адукацыі М.Картэль падаў прыклад іншым установам — там на мове вядзецца справаводства. Гурток па вывучэнні роднай мовы існуе ў выканкаме. Выкананне Закона аб мовах нядаўна разглядалася на адным з пасяджэнняў, адзначана і «пэўная работа», і «недапрацоўкі». Тыя «недапрацоўкі», мабыць, звязаны з тым, што самі настаўнікі не вельмі хочуць перавучвацца. Бо з бацькамі асаблівых праблем няма.

Быў у нас і беларускамоўны ксёндз — Францішак Кісель, але яго, на жаль, перавялі ў Полацк. Новага ж прыслалі з Польшчы — завядзёнка тая яшчэ...

Колькі слоў пра фестываль самадзейнай творчасці «Браслаўскія зарніцы», што традыцыйна праводзіцца з 1969 года. Тыпова «савецкае» мерапрыемства пазбаўляецца заідэалагізаванасці, напаўняецца новым зместам — павярнулася тварам да будзённага жыцця, да нацыянальных традыцый. Тое ж і з Купаллем. Без душэўнай патрэбы, без разумення сэнсу тых ці іншых абрадаў свята — не свята, а сапраўды толькі мерапрыемства.

Успамінаю, як на Замкавай гары мы ставілі драўляныя скульптуры герояў старажытнай легенды. Я вам коратка яе перакажу. Князь Дзвін меў дачку, прыгажуню Дрыву. За яе руку змагаліся Снуд, Ноў і Брас, адбылася бойка паміж імі. Жывым застаўся Брас, але ён адмовіўся ад дзяўчыны, з-за чаго тая кінулася са сцяны замка. Маці яе, Друйка, таксама не перанесла гора. Усе гэтыя імёны, заўважце, праходзяць у мясцовых назвах — рэчак Дзвіна і Друйка, азёр Дрывяты, Снуда, Навяты. Адсюль, вядома, і Браслаў. Дык вось, сышліся ўсе нашы актывісты — інтэлігенцыя, школьнікі, папрасілі ў мясцовай міліцыі «сутачнікаў» на дапамогу, дык і тыя працавалі з душой: хоць адну добрую справу, кажуць, зрабілі...



Так выглядае хата Пятра Зяляўскага



Мечыслаў Бейнар са сваімі кампазіцыямі

### МАНАЛОГ ДЗЕЛАВЫ

**Галіна ПАДАЛЯН, дырэктар Браслаўскага музея**

— Сама я родам з Друі, педінстытут заканчвала ў Даўгаўпілсе, і спецыяльнасць у мяне цікавая — настаўніца фізікі і дамаводства. Выкладала фізіку ў школе, пасля давялося ў дзіцячым садку працаваць. Калі пераехала ў Браслаў, былі цяжкасці з уладкаваннем на працу. Можна сказаць, што музейным работнікам я стала выпадкова. У 1986 годзе атрымалі кучку экспанатаў і голыя сцены памяшкання былой рэдакцыі і друкарні. У спадчыну засталіся і кадры /у будучым я набірала іх ужо сама/.

Наш дамок лічыцца аднапавярховым з мансардай, аднак мы абсталявалі музей на трох паверхах — увесь падвал заняты пад дзеючую экспазіцыю. За два з паловай гады мы стварылі музей, першыя наведвальнікі літаральна валам валілі, ды і зараз не пустуем: наведваюцца турысты, праводзяцца тэматычныя лекцыі і ўрокі для школьнікаў.

Хоць наш музей і гісторыка-краязнаўчы, але з прыкметным этнаграфічным ухілам. Пры ім ад заснавання працуе народная самадзейная студыя «Ля возера», якая аб'ядноўвае каля 50

(Працяг на стар. 14-15)

# «ШТО ТЫ СПІШ»?

(Пачатак на стар. 3)

сапраўды быў да месца і трапіў на добра ўгатаваную «сацыяльна-эканамічную і палітычную» глебу. Рэзананс атрымаўся моцны. Кожны, як кажуць, рупіцца на сваім месцы, з большай ці меншай доляй прафесійнага імпэту. У «Беларускай маладзёжнай» імпэту хапае з запасам, мы гэта ведаем. А тут 1 красавіка, з чым трэба лічыцца ўсім — і хатняй гаспадыні, і прэм'ер-міністру...

Дык навошта тады звальваць з хворай галавы на здаровую, калі напружанасць у грамадстве ўзнікла намнога раней, менавіта пасля прамовы Вячаслава Кебіча 18 сакавіка. Вунь, аж самому парламенту спатрэбілася два тыдні, каб разблытаць урадавы «жарцік» — змоўніцкае працягванне небяспечнай для Беларусі ідэі «калектыўнай бяспекі».

І ці адзіны гэта «жарт» беларускага ўрада! Хіба не абміраюць сэрцы ў людзей штораз перад маючым адбыцца падвышэннем цэн? Ці, можа, супакойваюцца суайчыннікі ад таго, што іх кашалькі штодзень аб'ядаюцца пражэрлівай інфляцыяй нічым неабароненых заробкаў? А вартае кнігі Гінеса рабаўніцтва XX стагоддзя — дзяржаўны рэкет ашчадных укладаў простых грамадзян — чым не «жарт», што кінуў у халодны пот мільёны даверлівых кліентаў?..

Праўда, на такія жарты ў Доме ўрада рэагуюць моўчкі, а тут замахалі рукамі, затупалі ножкамі. Аднак марнай справай было шукаць кропкі грамадскага напружання ў невялікім журналісцкім калектыве, дзе пануе творчасць і свабода слова. Гадзіна эфіру «БМ» па першай праграме, найбольш даступнага для шырокага слухача, — лічу, добры зарад грамадзянскасці, інтэлекту, нацыянальнай свядомасці і сумленнасці. А заклапочанасць беларускай дзяржаўнасцю, якую мы спрабуем сёння адраджаць і развіваць, на маю думку, прысутнічае ў перадачах «Беларускай маладзёжнай» не менш, чым у тэле- і радыёвыпусках урадавай прэс-службы, разам узятых. На жаль, службы Саўміна, як бачым, і сам прэм'ер-міністр схільныя заўважаць «парадоксы» і «беспардоннае ачарненне ўлады». Зрэшты, ацэнкі могуць быць розныя. Зусім недапушчальна, калі следам за імі наступае адміністрацыйнае рукапрыкладства: адхіліць, зняць, разагнаць і г. д.

Абарона прэсы ад дзяржаўных нападак, на вялікі жаль, не гарантуецца сённяшнімі законамі. Гэта спаўна скарыстоўваюць уладныя структуры, што пацвярджае сумная статыстыка ўдушэння многіх выданняў судовымі штрафамі, перагляды і перазацвярджэнні канцэпцый, змена шыльдаў, розныя пертурбацыі і іншыя апаратныя хітрыкі. Не магла не дайсці чарга і да «Беларускай маладзёжнай», якая несумненна застаецца лідэрам сённяшняга эфіру і ладзіць перадачы без паслужліва-баязлівай аглядкі на погляд зверху.

«Хуліганства», «наўмысная дэзінфармацыя слухачоў», што інкрымінаваліся на гэты раз журналістам, выглядалі не больш як інсінуацыямі. Аж не верыцца, што гэта неяк зразумелі, крыху ахаладзеўшы, іх аўтары.

## ГАЛОПАМ У ЕЎРОПУ? НА ШЧАСЦЕ, ТАК НЕ БЫВАЕ

Бадай, грэх паскардзіцца на перакладчыка. Ён быў дакладны. Пытанне з вуснаў пані Катрын Лалюм'ер, Генеральнага сакратара Савета Еўропы — старэйшай міжурадавай арганізацыі, прагучала нечакана, як бы астуджаючы нашы эйфарычныя спадзяванні на лёгкае і хуткае ўваходжанне Беларусі ў агульнаеўрапейскую сям'ю. Высокая госця спыталася ў Станіслава Шушкевіча ў час сустрэчы: «Чаму вы хочаце прыблізіцца да Еўропы, па традыцыі ж Беларусь бліжэй да Расіі?»

Сфармуляванае, на першы погляд, не ў самых цнатлівых традыцыях дыпламатычных зносін, пытанне ўсё ж падкупляла і шчырай праматой. «Жарсцінка» скрозь жартаўліва-вышталцоны тон закралася невыпадкова. Свет бачыць нас часам больш адэкватна, чым гэта ўдаецца нам самім. Мы бачыць бачым, але ці ўсведамляем? Аглядка на Расію, сіндром хранічнай залежнасці ад «вялікага суседа», што красамоўна выявілася ў вясновым дэмаршы прэм'ер-міністра Кебіча, — хіба не падстава ўсумніцца ў жаданні Беларусі наблізіцца да Еўропы, «здрадзіўшы традыцыі»?

Экспромт Станіслава Шушкевіча не прэтэндаваў на прагнастычную ўсеахопнасць адказу — ён быў на ўзроўні менавіта экспромту, у якім пераважала дыпламатычная памяркоўнасць. А расхожыя пасылкі кшталту «імкнення развіваць стасункі з усімі сваімі суседзямі» наўрад ці здолелі нейтралізаваць «каверзу» пані Лалюм'ер. Цэнтры стратэгічных даследаванняў, якія ў апошні час нібыта ўзбагацілі наш палітычны рынак, маглі б сур'ёзна і не без карысці задумацца над пытаннем, вартым цэлага праекта.

А пакуль што суверэнная Беларусь вымушана задаволіцца статусам «спецыяльна запрошанай» у СЕ. Жаданае прадстаўніцтва ў якасці паўнапраўнага члена адкладваецца на няпэўны час. Беларусь не гатова да ўступлення ў Савет Еўропы. Такая вось бескампрамісная выснова Катрын Лалюм'ер.

Вядома, трохі крыўдна за дзяржаву, тым больш — за родную Беларусь. Хоць ёсць у нас выпадкі куды балючэйшыя. Гатовы пакаяцца: гэты раз, апроч вонкавай расчараванасці, я адчуў і ўнутраную задаволенасць, нават гордасць. Жывучы ў геаграфічным цэнтры Еўропы, я меў магчымасць усвядоміць, што ёсць еўрапейскія стандарты, якія не так лёгка пахіснуць звыклымі дэкларатыўнымі клішэ пра так званую «стабільнасць» Беларусі ці якой-небудзь іншай пратакольнай паказухай. Што дзверы ў еўрапейскі дом адчынены для тых, хто гэтага сапраўды варты.

Веру, наша Беларусь абавязкова набудзе статус члена старэйшай аўтарытэтнай арганізацыі, будзе мець там і гонар, і пашану. Але — па мерках «дэмакратычнай сталасці». Калі хоць крыху адбудуе зруйнаваны храм чалавечай і нацыянальнай годнасці. Калі зменіць сённяшні ўрад на здольны ісці шляхам дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага адраджэння. Калі распусціць сённяшні парламент і выбера новы, на шматпартыйнай аснове. Калі займее свабодную прэсу, вольную ад пракамуністычных і ўрадавых лобі, і гэтак далей.

Дарэчы, вы заўважалі, паважаныя чытачы, як часам розняцца дамашнія і замежныя выступленні асобных нашых лідэраў? Маю на ўвазе прынцыповую розніцу. Скажам, выступаючы з прамовай год таму на канферэнцыі Міжнароднай арганізацыі працы ў Жэневе, Вячаслаў Кебіч палымяна абяцаў перад усім светам /цытую/ «сделать республику нейтральным государством, а ее территорию — безъядерной зоной. И к этой цели, — зазначыў прадстаўнік незалежнай дзяржавы, — мы движемся **неуклонно** /падкрэсліванне маё. — **В. Д.**/». Як паведаміла газета «Рэспубліка», выступленне «выклікала самую добразычлівую рэакцыю залы. Прадстаўнікі розных краін, стаўшы ў жывую чаргу, павіншавалі В. Кебіча, а ў яго асобе незалежную Беларусь...» Мінуў толькі год. Паслухалі б яны прамову Вячаслава Францавіча, з якой ён выступіў дома 18 сакавіка! Ці паспяшаліся б паціскаць руку?

Еўропа, вобразна кажучы, дае нам шанц. Але... не трэба спяшацца «ў Еўропу», не трэба фарсіраваць «выхад у свет». Тым самым мы аддаляемся ад Еўропы, у процілеглы бок. Трэба — **спяшацца адраджацца**, падымацца з каленяў, ладзіць самастойную палітыку незалежнай краіны.

Да сустрэчы ў лепшы час, пані Лалюм'ер!

...Бяру ў рукі томік Купалы. Збор твораў у сямі тамах, старонка 81-я. Верш «Што ты спіш?..» Чытаю радкі Купалавай пабудкі, што прагучала на пачатку стагоддзя: «А не грошы ж твае Там у банку ляжаць?..»; «Не за грошы ж твае Цар палац свой зрабіў? Не за грошы ж твае Ён чыноў насадзіў?..»; «І ідзі, і крычы Прагавітым людзям...»; «Дык прасніся хутчэй...»; «Глянь! Усходзіць ужо Зорка праўды святой...».

Дзякаваць лёсу, мы, беларусы, і сёння ў асобе неўміручага Купалы маем сапраўднага народнага заступніка. Трэба толькі часам адкласці ўбок газету і разгарнуць томік ягоных вершаў.

**Валерый ДРАНЧУК**

Лімаўскія дыялогі

***Доктар філалагічных навук, прафесар Адам Восіпавіч Мальдзіс, пачынаючы ў 1990 годзе ладзіць Скарынаўскі цэнтр у Мінску, — не мог прадбачыць, што ўстанова па навуковым патэнцыяле пачне станавіцца інтэлектуальным цэнтрам новага беларускага адраджэння, набываць якасць, так бы мовіць, мозга культуры. Цэнтр распачаў даследаванні гісторыі і тэорыі культуры, скарыназнаўства, беларусазнаўства, міжнацыянальных і міжканфесійных дачыненняў на тэрыторыі Беларусі, распаўсюджанасці беларускай культуры ў свеце.***

***Па словах спадара Мальдзіса, сказаных у інтэрв'ю з нагоды ўзнагароджання яго Ордэнам Заслугі Рэспублікі Польшча, «тое, што здарылася з Беларуссю ўвосень 1991 года — самы сапраўдны цуд». Як там ні было, але палітычныя варункі 1990-ых гадоў дазваляюць кожнаму чэснаму беларускаму інтэлігенту не толькі летуценіць пра г. зв. Усебеларускі Дом — чаго раней было дастаткова, — але і, у меру сваіх магчымасцей, практычна спраўджваць канкрэтныя задумы па матэрыялізацыі гэтага дужа прыцягальнага, ёмкага, хоць і спрэс метафарычнага вобраза. Дом — гэта і праекты, але гэта і дзеі, будаўнічы рэй, разлічаны на гісторыю...***

***Як Усебеларускі Дом бачыцца прафесару Мальдзісу, у чым яго, дома, моц і трываласць... — гэтыя сімвалагізаваныя пытанні леглі ў аснову гутаркі аглядальніка «ЛіМа» Юрася ЗАЛОСКІ са слынным навукоўцам і даследчыкам. Поруч з адцягненымі, паэтызаванымі інтэнцыямі сп. А. Мальдзіс выказвае і пэўныя ацэнкі навуковай дзейнасці ў галіне філалогіі ў 60—70-ыя гады, дзеліцца ўражаннямі аб вартасцях сённяшняй навуковай моладзі, імкнецца зазірнуць у заўтрашні дзень Беларусі і Летувы...***

# УСПАМІН ПРА «ЗАЛАТЫ ВЕК» — НА ПАРОЗЕ III ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

## ГУТАРКА З АДАМАМ МАЛЬДЗІСАМ

**— Вы, Адам Восіпавіч, я ведаю, пры дужай занятасці канкрэтнымі справамі, заўсёды заставаліся рамантыкам, чалавекам, схільным памарыць і палетуценіць. Відаць, гаварыць пра Усебеларускі Дом інакш і не выпадае, як у форме паэтызаваных метафар і тэалагічных афарызмаў...**

— Прабачце, але давайце пачнём не з метафар, а з рэальнасці, з таго канкрэтнага Усебеларускага Дома, які ствараецца — неймаверна цяжка, пакутліва, — але ствараецца па ініцыятыве Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны ў будынку былога Інбелкульта /гэта па вуліцы Рэвалюцыйнай у сучасным Менску, у будучым, відаць, зноў вуліцы Койданаўскай/, які перадаецца нам паводле распараджэння Савета Міністраў. Праўда, слова «перадаецца» я ўзяў бы ў двукоссе. Бо з 27 пакояў перададзены пакуль што толькі два. У астатніх застаюцца таварыства цвярозасці, спартсмены, пракуратура Фрунзенскага раёна. Уяўляеце: у памяшканнях, якія памятаюць Купалу, Коласа, Гарэцкага, Ігнатоўскага, цвет беларускай нацыі, цяпер разбіраюцца з living рознымі мафіёзі!? Такі парадокс магчымы толькі ў нас...

Дык вось. У гэтым гістарычным будынку мы рашылі разам з Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, разам са Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына» стварыць Усебеларускі Дом, установу нетрадыцыйную, якой быў і Інбелкульт. Яна будзе адкрытай для кожнага нашага суайчынніка — дзе б ён ні жыў. Яна будзе адкрытай — у поўным сэнсе гэтага слова — і для горада: у асобных пакоях-кабінетах тут размесцяцца экспазіцыі «Беларусы ў свеце», «Інбелкульт», «Францішак Скарына», «Беларуска-іншанацыянальнае культурнае ўзаемадзеянне»; могуць збірацца тут і розныя нацыянальныя суполкі. Нашы госці будуць мець магчымасць карыстацца Банкам інфармацыі па беларусазнаўстве, бібліятэкай, для якой зарубежныя сябры ўжо дакляравалі тысячы тамоў «валютных» кніг, іншымі фондамі. А ў падвале, замест піўбара, які хацелі стварыць «цвярознікі», мецьме адрадзіцца «Беларуская хатка», месца навуковых, творчых і дзелавых сустрэч... Вядома, найперш тут будуць працаваць навукоўцы — даследаваць праблемы гісторыі і тэорыі беларускай культуры, яе ўзаемадзеянне з іншымі культурамі свету, фармаванне і развіццё нацыянальнай свядомасці, рэлігіязнаўства, краязнаўства. Спецыяльны аддзел «Беларусы ў свеце» зоймецца пытаннямі нашай дыяспары ў блізкім і далёкім замежжы, падрыхтуе аднайменны энцыклапедычны даведнік /яго структуру мы абмеркавалі з кіраўніцтвам Беларускай энцыклапедыі, адкуль зыходзіць ініцыятыва/. Навуковая праца, вядома ж, будзе спалучацца з асветнай, культурнай дзейнасцю.

Хацелася б, каб Усебеларускі Дом адчыніў свае дзверы да Сусветнага з'езда беларусаў. Але, паўтараю, праціўнікаў гэтай ідэі занадта многа. І яны спрабуюць нават запалохваць тых нашых супрацоўнікаў, што перасяліліся ў вызваленыя два пакоі. Да прыкладу — біццём вокнаў... Такая рэальнасць.

Ну, а цяпер можна і да метафараў перайсці.

**— Калі заўгодна васпану. Удалым эпітэтам для гутаркі пра Усебеларускі Дом мне ўяўляюцца радкі Уладзіслава Галубка: «Прыждзем і мы святлейшых дней, як скончым строіць дом...» /1912 г./. Як бачым, рамантычную мэту — будаваць СВОЙ ДОМ НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ — беларуская інтэлігенцыя ставіла яшчэ на пачатку стагоддзя. Скажыце, Адам Восіпавіч, калі глядзець на гісторыю беларусаў панарамна, пачынаючы, напрыклад, ад Навагародскага княства, ці можна вылучыць у нашай гісторыі перыяды сапраўднага пачування сябе гаспадарамі ў сваёй хаце — пачування Дому?**

— Можна. Асабліва па-гаспадарску адчувалі сябе нашы продкі ў сваім Доме ў XV—XVI стагоддзях. Іх мова тады была рэальнай дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага, супольнай дзяржавы некалькіх будучых народаў. Бо, прабачце за адступленне, сёння фактычна дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь застаецца руская мова, фактычна гаспадар у сваім доме ўсё яшчэ просіць дазволу пераначаваць пад лаваю /процьму доказаў таму літаральна кожны дзень прыносіць наша прэса/... Дык вось, у XV—XVI стст. правы гаспадара былі абаронены артыкуламі беларускамоўнага Літоўскага статута, ледзь не самага дасканалага збору законаў у тагачаснай Еўропе. І ў Еўропу тады беларускія землі ўваходзілі з годнасцю — сваімі добрымі таварамі, сваімі талентамі, мастацтвам /прыгадаем, як у Падуі высока ацанілі веды Скарыны, як у Рыме аднесліся да Гусоўскага/. Таму і Еўропа тады імкнулася ў Беларусь — колькі яе светлых прадстаўнікоў, да прыкладу, той жа Бернардоні, прыязджалі сюды, каб жыць і працаваць, тварыць. Усё гэта давала і дае падставы лічыць той перыяд, часы першага нацыянальнага адраджэння, залатым векам у нашай мінуўшчыне. Залатым — у параўнанні з папярэднім і наступным перыядамі, з той паланізацыяй і русіфікацыяй, што распачаліся напрыканцы XVI ст. і працягваюцца да сённяшняга дня.

**— Дадамо, што «залаты век» ВКЛ — гэта дасканалая для свайго часу, еўрапейская мадэль уладкавання грамадства, з «вышэйшымі», арыстакратычнымі, і «ніжэйшымі» саслоўямі. Дзейнымі асобамі на рыштаваннях дзяржаўнага Дома бачацца асобы дойліда-працаўніка і дойліда-кіраўніка — магната, шляхціца, двараніна... Слухаючы вас, спадар Мальдзіс, я думаю: каб аднавіць дзяржаўную моц нашага народа, якую яму ў сярэднявеччы прыдавала спалука ніжэйшых і вышэйшых саслоўяў — саслоўяў аднаго народа, — нам у рэфармаванні грамадства трэба прайсці як бы зваротны шлях, роўны двум стагоддзям, — шлях за мяжу 1795 г., ад якое, як вядома, пачынаецца каланіяльная гісторыя нашай Бацькаўшчыны...**

— ...Нават не двум, а чатыром стагоддзям. Бо наша становішча ў XVII—XVIII стст. таксама нельга ідэалізаваць. Беларускія нацыянальныя бядоты, размыванне фундаменту пад нашым Домам пачаліся менавіта тады. Гэты Дом, што раней цвёрда і роўна стаяў на сваім грунце, усё больш пачаў нахіляцца ў заходнім накірунку, а потым, згубіўшы раўнавагу, з яшчэ большым імпэтам пахінуўся на ўсход і прабывае ў такім стане да сённяшняга дня. Кволыя спробы прыдаць яму першапачатковы, вертыкальны стан сустракаюць шалёнае супраціўленне /пачытайце «Мы и время»/, — не, не рускіх, а саміх жа беларусаў, праўда, пазбаўленых пачуцця нацыянальнай годнасці. Вядома, ёсць і рэальная небяспека, што рэзкія, некваліфікаваныя дзеянні па ўзняцці нашага Дома з ненармальнага, нахіленага становішча могуць прывесці да яго расколу на дзве часткі. Не дай таго, Божа!

**— У 20-ыя гады, як сведчыць, прынамсі, статыстыка, Беларускі Дом уздымаўся досыць трывала і кваліфікавана — звесткі па «беларусізацыі» таго часу ў параўнанні з днём сённяшнім у Беларусі падаюцца неверагоднымі. Ды й урад БССР у 20-ыя гады, як, здараецца, сцвярджаюць гісторыкі, «пачуваў сябе сапраўды ўрадам, а не правінцыйнай адміністрацыяй»... Калі аб'ектыўна ацэньваюць культурныя працэсы 20-ых гадоў, дык наколькі рэальным уяўляецца абеларушчванне жыцця ў рэспубліцы на той час?**

— Ва ўсякім выпадку, больш рэальным, чым сёння. Тады дзяржаўнымі мовамі Беларусі былі чатыры — беларуская, польская, руская і яўрэйская. Але яны не заміналі адна другой, а ўзаемадапаўнялі сябе. Чаму? Ды таму, што беларуская тады фактычна была дзяржаўнай мовай Беларусі, што на ёй гаварыў урад /сёння ж — некалькі міністраў і жменька дэпутатаў ад апазіцыі, тое ж — у дзелавых колах/. Калі б мы былі ў сітуацыі 20-ых гадоў, то не было б чаго баяцца і дзяржаўнасці рускай, іншых моў. На жаль, як мы ведаем, усе здабыткі тагачаснай беларусізацыі былі перакрэслены сталінскімі рэпрэсіямі, калі ў душах людзей пасяліўся страх, калі насаджаўся комплекс нацыянальнай непаўнацэннасці беларусаў, што жыве, не дае выпрастацца Дому да сённяшняга дня.

**— Тут, мабыць, найперш трэба гаварыць пра сіндром страху ў паводзінах /дый не толькі ў паводзінах — у духоўным, унутраным пачуванні таксама/ беларускай інтэлігенцыі. Доўгі час, пасля вайны, яе дбайна апекавалі органы ідэалагічнага і грамадзянскага нагляду, прывучалі пісаць і гаварыць напаўголасу, напаўдумкі, напаўпачуцця... Замоўчваліся імёны і факты ў літаратуры, мастацтве, спадчына — вам гэта, бадай, вядома як нікому. Ды з гэтай прычыны неафіты беларушчыны 1990-ых, маладыя навукоўцы, і гатовы ўсумніцца ў навуковай вартасці напрацовак папярэднікаў.**

**Ваша навукова-філалагічная кар'ера, Адам Восіпавіч, склалася ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі, дзе вы сталі кандыдатам і доктарам навук, доўгі час узначальвалі аддзел беларускай дакастрычніцкай літаратуры; тады ж, у 60—70-ыя гады, вамі напісана каля дзесятка кніг па гісторыі літаратуры. Ці шмат з напісанага вы перапісалі б нанава?**

— Працуючы ў Інстытуце літаратуры, я імкнуўся абаперціся — і, лічу, гэта мне ўвогуле ўдавалася — на яго вялікасць Факт. Не на загадзя і адвольна сканструяваную схему, а на твор, Факт біяграфіі, грамадскага жыцця. Адсюль — і імкненне да пошукаў новых фактаў, да працы ў архівах, бібліятэках, музеях. Я са шкадаваннем успамінаю час, калі можна было на месяц паехаць у Вільню ці Кракаў і там сядзець над рукапісамі. Бо цяпер пераважна праводжу дні на розных пасяджэннях ці ў прыёмных — выбіваючы фінансаванне, абсталяванне для таго ж Усебеларускага Дома. Адзіная радасць, што пошукі прадоўжваюць мае былыя аспіранты Алесь Жлутка /ён нядаўна вярнуўся з добрым плёнам з Рыма, куды мне з Генадзем Кісялёвым не ўдалося дарвацца/, Іван Саверчанка, іншыя...

Тады ж, у 60—70-ыя гады, былі напісаны кнігі, заснаваныя на рэальных фактах, на знаходках, — «Падарожжа ў XIX стагоддзе», «Таямніцы старажытных сховішчаў», «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя», і галоўная сярод іх — «На скрыжаванні славянскіх уплываў». Назва яе была ўзята для пэўнага камуфляжу. Бо ў літаратуры XVII—XVIII стст., якая да гэтага лічылася ледзь не адсутнай, галоўнае — не ўплывы, а арыгінальная творчасць, барочная, класіцыстычная. І пра гэта сведчылі творы, што там упершыню ўводзіліся ў навуковы ўжытак. Тады ж пісаліся і раздзелы па гісторыі літаратуры, якія сёння не трэба ў пажарным парадку перапісваць нанава. Можа, хіба, удакладніць якія дэталі.

Што ж датычыцца 80-ых гадоў, то яны прайшлі ў карпатлівай рабоце над... бібліяграфічнымі картачкамі, над падрыхтоўкай шасцітомнага біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», у якім павінен быць прадстаўлены ўвесь мацярык нашай літаратуры. Першыя два тамы яго выйшлі з друку. Але вялікай радасці ад гэтага не адчуваю. Занадта доўга, цэлыя два гады гэтыя тамы праляжалі набранымі — так што нельга было ўнесці нават самыя важныя змены /смерць пісьменніка, да прыкладу/. А да таго яшчэ тры гады праляжалі без руху ў выдавецтве... Чаму? Ды таму, што ў першым томе былі ў алфавітным парадку і Антон Адамовіч, і Вінцук Адважны, і Францішак Аляхновіч, і Наталля Арсеннева... Яшчэ на пачатку 80-ых гадоў мы разумелі, што беларуская літаратура — адна, непадзельная, і рызыкнулі ўвесці гэтыя імёны ў слоўнік. Вядома, у духу таго часу ішлі на пэўную страхоўку, ужывалі ў біяграфіях фармулёўкі, якія сёння гучаць наіўна або недарэчна. Але, паўтараю, усё гэта пісалася год восем-дзесяць назад, калі і гэтыя імёны выклікалі жах пры абмеркаванні, і сам Слоўнік выглядаў нечым непатрэбным, і ваш пакорны слуга хадзіў у «агентах ЦРУ».

Рыхтаваць бы слоўнік нанава, на сённяшняй фактычнай аснове... Ды няхай жа ідзе ў свет такім, які ёсць, які нарадзіўся год дзесяць назад. Асноўнае ў ім, паўтаруся, яго вялікасць Факт. А факты не старэюць.

**— Ну, відаць, у «агентах ЦРУ» вы хадзілі мабыць, невыпадкова... Лагічна дапусціць, што калі творчая дзейнасць у галіне нацыянальнай культуры кантралявалася ўзмоцнена рознымі першымі аддзеламі /а што гэта такое, ваш малодшы суразмоўнік, аднак жа, заспеў уведаць напрыканцы 80-ых/, — дык павінна было існаваць нейкае патаемнае сумоўе і стасункі людзей літаратуры і мастацтва, нешта накшталт масонскага руху ў культуры. Наколькі падобная з'ява ў Беларусі сапраўды мела месца?**

— Мела! Безумоўна мела! «Масонства» тады засяроджвалася на прыватных кватэрах, дзе ў час сямейных ці нейкіх прыдуманых урачыстасцяў можна было выгаварыцца, абмеркаваць супольныя «хады» ў абарону чагосьці або кагосьці. Збіраліся ў Караткевіча, у інтэрнацкім пакоі Прашковіча, іншых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры. Зрэшты, і там трэба было асцярожнічаць. Бо часта з'яўляліся нейкія асобы збоку, да якіх /можа, часам і няслушна/ мы адносіліся з насцярогаю. У такіх выпадках Караткевіч патрабаваў: «Хлопцы, у маёй прысутнасці пра палітыку не гаварыць». Але тады /як і цяпер/ беларуская мова, культура, спадчына таксама былі палітыкай. Тут, а не ў афіцыйным палітычным жыцці вырашаўся лёс нацыі...

**— Ведаеце, Адам Восіпавіч, праца ННАЦ імя Ф. Скарыны, рух вакол яго таксама ствараюць уражанне нейкай засакрэчанасці і таямніцы... Пра Цэнтр ходзяць легенды. Не ведаеце? Па-першае, легенда «гераічная»: Цэнтр — мозг Адраджэння; па-другое, легенда «лірычная» — што Скарынаўскі цэнтр — збор паэтаў... Ды легенды, вядома, нараджаюцца людзьмі і вакол людзей. Людзі, асобы — душа кожнай установы, тым больш культурнай. Раскажыце, калі ласка, пра калектыў Цэнтра, адносіны паміж супрацоўнікамі, ну і, вядома, ваша стаўленне да «легенд»?**

— Што ж, як казаў Караткевіч, чалавек, а тым больш нетрадыцыйная ўстанова павінны абрастаць міфамі, нібы «карабель — ракавінкамі». Легенды дапамагаюць у будзённым жыцці, калі яны вырастаюць з рэальнасці. Але міфы пра «мозг Адраджэння» і «збор паэтаў», гаворачы словамі Марка Твэна, яўна перабольшаны. Мы хацелі б стаць «мозгам», але пакуль што, хутчэй, з'яўляемся пальцамі на рабочай, мазольнай руцэ.

*(Працяг на стар. 12)*

# ЗАСТАЎСЯ ТАТАЛІТАРЫЗМІК...

## НАТАТКІ ЗНЯВЕРАНАГА

### 1. ДА ЧАГО ВЯДЗЕ КЛАНАВАСЦЬ

Казьма Пруткоў калісьці казаў: «Ганарар для паэта тое самае, што каніфоль для смычка». Калі браць больш абагульняючы сэнс гэтага выказвання, то адразу заўважаецца ўзаемасувязь паміж літаратурай і эканомікай. А нацыянальная літаратура заўсёды абапіраецца на нацыянальную эканоміку.

Ці была ў Беларусі нацыянальная эканоміка?

Так — калі ўспомніць часы Вялікага княства Літоўскага XIV—XVI стст. Уздым нацыянальнай эканомікі — залаты век мастацтва. Дастаткова згадаць мецэнатаў Скарыны Віленскага бурмістра Я. Бабіча, радцу магістрата Б. Онькава.

А ў навейшы час?

Да рэвалюцыі там, дзе ўзнікалі агеньчыкі нацыянальнай эканамічнай незалежнасці, дзе з'яўляліся сродкі для «каніфолі» /як падтрымкі дзейнасці/, там нараджалася наша новая літаратура, і скрыпка беларуская спявала. Напрыклад, фундатарамі «Нашай Нівы» былі пан Скірмунт і пані Радзівіл.

Сапраўдны ўздым — можна сказаць, пік сярэбранага веку — беларускай літаратуры прыпадае на 20-ыя гады. Нацыянальная свядомасць дамінуе ва ўсіх галінах жыцця Беларускай рэспублікі. Будуецца нацыянальная эканоміка — імкліва развіваецца мастацтва. Нам на зайздрасць, у той час можна было выдаць кнігу літаральна за месяц. Дзякуючы гэтаму мы і ведаем пра творчасць многіх пісьменнікаў, рэпрэсаваных у жахлівыя 30-я гады. /Не дай Бог зараз прыйдзе да ўлады таталітарны рэжым, дык нашы нашчадкі будуць здзіўляцца — чаму на дастаткова вялікай Беларусі, дзе «ў кожнай хаце паэт», у канцы 80-х і пачатку 90-х з'явілася так мала новых імёнаў? Але мы да гэтае праблемы яшчэ вернемся.../

Таталітарызм у ідэалогіі — таталітарызм усюды: у эканоміцы і ў мастацтве. У вядомай казцы А. Талстога перад вослікам, каб ён ехаў у належным кірунку, падвешвалі морквачку, вослік імкнуўся з дапамогай бізуноў дацягнуцца да яе і цягнуў воз. Так было і з мастацтвам у 30-я, 40-я /тых, хто не хацеў быць вослікам, фізічна знішчалі/. Пазней непаслухмяных не друкавалі, не прымалі на працу, у лепшым выпадку выганялі за межы Радзімы, у горшым аб'яўлялі вар'ятамі і «лячылі». Сапраўды, для таго, каб ствараць нацыянальную культуру ў тых умовах, трэба было быць мужным да вар'яцтва ці вельмі хітрым. З-за безаблічнай плыні сацрэалістычнай літаратуры /на апошняй выспе гэтае культуры ў Паўночнай Карэі многія творы падпісваюцца, як «гурт аўтараў»/ у Беларусі выступаюць толькі некалькі імёнаў стваральнікаў своеадметнай літаратуры. /Хаця сацрэалізм сам па сабе дастаткова цікавая эстэтычная з'ява — апагей статкавай свядомасці, вынік самага шырокага эксперыменту па гвалтаванні асобы. І паколькі, можна спадзявацца, эксперымент апошні, то яго вынік вельмі каштоўны для сусветнай гісторыі развіцця чалавецтва/.

Таталітарызм знік — таталітарызм застаўся. Дакладней, застаўся таталітарызмік.

Нарэшце мы дайшлі да сучаснасці.

Канец 80-ых, пачатак 90-ых. Разбурана таталітарная эканоміка, нацыянальная — не народжана. Што сілкуе літаратуру Беларусі ва ўмовах анархічнага накаплення капіталу, інфляцыі маральных каштоўнасцей і чалавечага жыцця?

Як ні парадаксальна — аскепкі мінулай сістэмы. Гэтыя радовішчы сталі не такія багатыя, як былі, але вузкае кола сваіх кліентаў пракарміць здольныя. Як галоднай зімой вакол крошак збіраецца чародка вераб'ёў і робіць усё магчымае, каб не дапусціць чужака, так вакол выдавецкіх «магутнасцей» і выданняў стваравюцца шчыльныя кланы літаратараў. І прабіцца праз кола маладому, новаму ці з іншымі поглядамі літаратару, які не мае вопыту і «валасатай рукі», амаль немагчыма.

І застаецца пісьменніку-іншадумцу ісці да прыватных выдавецтваў тыпу «Дайджэста», што па злым выпадку займае пакой у Доме літаратара. А там «мадама» з перакрыўленым тварам, з-за таго, што да яе наважыліся звярнуцца пабеларуску, адкажа /тое было на самай справе/:

— У нас другой имидж. Мы издаем бестселеры мира и БЛАГОТВОРИТЕЛЬНОСТЬЮ не занимаемся.

Мауляў, падачак не даём!

Для іх, ці бачыце, беларуская культура варта толькі падачкі...

А калі спытаеш, ці плацяць яны ганарары сваім аўтарам /рубель неяк жа пераводзіцца ў валюту/, то ў іх вочы ад здзіўлення на лоб палезуць.

Вось і думаеш, што даюць для Беларусі гэткія «Дай-д-жэсты»...

Бо таленавітаму, але звычайнаму, збядненаму з-за інфляцыі грамадзяніну-літаратару проста немагчыма раздабыць неабходныя 100 тысяч на кнігу, для гэтага трэба быць геніяльным у іншых галінах... Даводзіцца яму шукаць аднадумцаў і разам ствараць сваю суполку. Спачатку гэта дае станоўчы эфект — агулам выжыць, «выбіць», выпрасіць, ствараць лягчэй. Напрыклад, цяперашняя «Наша Ніва» мае вельмі моцны творчы патэнцыял, але і там ужо праступаюць рысы кланавасці. І ўсё ж такі, трэба прызнаць, калі кланавыя колы і будуць сціскацца вакол іншадумных, неафіцыйных выданняў, то ўсё роўна апошнія будуць грунтавацца на сваіх неардынарных вартасцях у супрацьвагу старым, адміраючым.

Закон жабрацтва, джунгляў, нестабільнай эканомікі, анархіі — супраць кланаў паўстаюць іншыя кланы!

Аб'ектыўна гэта не віна, а бяда беларускай літаратуры, вымушанае становішча з-за нетрывалай эканамічнай глебы. Але заплюшчваць вочы на ненармальную з'яву — гэта па-страусінаму хаваць галаву ў пясок, дзе ўжо закапаліся іншыя птушыныя галовы — каб агулам менш трэсціся. /Дарэчы, такія паводзіны назіраюцца не толькі ў некаторых літаратараў, але і ў іншых непасрэдных удзельнікаў палітычнага і эканамічнага жыцця рэспублікі/.

Пісьменнік павінен быць індывідуалістам, неабмежаваным нейкімі калектыўна-выпрацаванымі поглядамі на тыя ці іншыя праблемы, інакш ён не будзе творцам. Пісьменнік — вынаходнік новага ўспрымання свету! Літаратурны калектывізм утрамбоўвае неардынарнасць, тым самым губіць усю літаратуру.

### 2. ДЗЕ ВЫЙСЦЕ?

Якія могуць быць шляхі выйсця для беларускай літаратуры, дый беларускай культуры ўвогуле, з цяперашняга стану?

1. Трэба даць пісьменніку-асобе, пісьменніку-індывідуалісту, чалавеку са сваімі незалежнымі поглядамі трыбуну, г. зн. магчымасць свабодна выдаваць свае кнігі і друкавацца ў перыёдыцы.

2. Матэрыяльна падтрымаць творчых асоб. /Каніфоль!/

3. Неабходна знайсці ці стварыць чытача. /На першы погляд вельмі парадаксальная задача, але такая нам засталася спадчына/.

Вырашэнню гэтых задач перашкаджае страшэнны вораг — дзікі рынак.

Але калі вораг мацнейшы, разумней яго скарыстаць у сваіх мэтах, а не змагацца /як у цывілізаваных краінах/, адпаведнымі захадамі зняць эпітэт «дзікі» і /на цяперашнім этапе, а гэта датычыцца ўсіх галін грамадскага жыцця Беларусі/ паставіць эпітэт «нацыянальны».

Дзікі рынак стварыў вялікую колькасць розных прыватных і напалову прыватных выдавецтваў, што выдаюць кніжна-таварную прадукцыю. Яны, як належыць, плацяць дзяржаве падаткі. А чаму б той жа дзяржаве палову грашовага падатку не замяніць на натуральны?

Гэта значыць, увесці абавязковасць выдання пэўнай колькасці кніг у дзяржаўнай мове. Напрыклад, на 100 экземпляраў іншамоўных 10 ці хаця б 1 экземпляр у беларускай мове. /Вызначыць колькасць — справа эканамістаў/. Інакш забараніць дзейнасць на тэрыторыі Беларусі. Тады ў такіх выдавецтваў узнікне заахвочанасць вышукваць творы беларускіх пісьменнікаў, знаходзіць перакладчыкаў. Узнікне зваротны дыялог /не аўтар-выдавец, а выдавец-аўтар/. Разгрузяцца чэргі ў дзяржаўных выдавецтвах. Але самае галоўнае — сам аўтар займее выбар і незалежнасць.

Як вырашыць трэцюю задачу — ствараць попыт на беларускую літаратуру?

Толькі рэкламай.

Беларусізацыя з рыпам, але ідзе. У людзей час ад часу ўзнікае жаданне набыць цікавае і прэстыжнае, напісанае па-беларуску. Аднойчы госць з Украіны спецыяльна патраціў дзень на пошукі тамоў збора твораў У. Караткевіча: маўляў, самая прэстыжная беларуская кніга.

Гэтую спантанную /для сярэдняга чытача/ цікаўнасць трэба падтрымліваць. Як у Амерыцы, дзе кожны тыдзень публікуюць спіс рэкамендуемых для чытання новых кніг. Робіцца анкетаванні для вызначэння лепшай кнігі года. Дарэчы, такія пачынанні былі ў часопісе «Крыніца», але гэтага мала. Трэба, каб такія спісы публікаваліся ў шырокай прэсе, паведамляліся па радыё. Крытыкам добра было б нават ствараць рэйтынг прэстыжу пэўных кніг. У ідэале крытыка павінна абганяць выданне — крытыка па сігнальным асобніку, бо гэта дазволіць даць рэкламу і пазбавіцца перакосаў з тыражом. Таму што калі кніга не на ўзроўні, а ёю запоўнены ўсе паліцы крамаў, то пакутаваць будзе не толькі прэстыж аўтара і выдавецтва, але і беларускамоўнай літаратуры цалкам. І наадварот. Вось, напрыклад, у мінулым годзе выйшла ў «Мастацкай літаратуры» кніга па-беларуску «Французская навела XX стагоддзя»: тут і Сартр, і Камю, і Маруа. Добры пераклад. Тыраж на сённяшні дзень не нізкі — 5000 асобнікаў, але праз тыдзень кнігу немагчыма было знайсці ў крамах.

Безумоўна, паміж літаратарамі будуць узнікаць спрэчкі па ацэнцы таго ці іншага ўзору літаратуры, але так і павінна быць. Палеміка сама па сабе спрыяе інтарэсу публікі.

Усе тры задачы ўзаемазвязаныя паміж сабою і патрабуюць комплекснага вырашэння.

**Сяргей МІНСКЕВІЧ**

**Ад рэдакцыі.**

**Нататкі маладога крытыка дзеляцца, як бачым, на дзве часткі. У першай — канстатацыя факта, разваги пра незайздроснае становішча пачынаючага літаратара, у другой — пошук выхаду, своеасаблівая «пастанова». Прызнаемся, вызначэнні тыпу «клана» бянтэжаць, мы ўспрымаем іх хутчэй як метафару, а рэцэпты магчымых лекаў здаюцца крыху наіўнымі. Аднак у любым выпадку выйсце трэба шукаць, і такая думка таксама мае права быць выказанай і пачутай.**

---

А ПОШНІМ часам мы, літаратары, усё часцей і часцей згадваем пра адраджэнне нашай нацыянальнай культуры. Тут і настальгічнае «былі адарваныя ад Еўропы», і бахвальства «самі з вусамі», і спроба далучыць эмігранцкую творчасць, упісаць яе ў кантэкст усёй «савецкай» творчасці беларусаў. Вышукваем новыя імёны, прыгадваем амаль забытыя, вяртаем невядомыя. Ідзе працэс адраджэння! Але... Але за ўсім гэтым, як і раней, выходзяць у свет, становяцца на паліцы кнігарняў, прапануюцца чытачу шэрыя, пустыя словам і думкай, без аніякай прысутнасці навізны кнігі. Яны праходзяць і па-за ўвагай крытыкі, не дадаючы мастацкаму густу тым, хто ўсё-ткі набыў іх і прачытаў. На жаль, такіх кніжак шмат. І калі крытыкующа кааператыўныя выдаўцы /ёсць за што!/, дык і дзяржаўныя выдавецкія структуры вартыя наракання. Здаецца, час даў шмат магчымасцяў дзяржаўным выдавецтвам утрымацца на плыву, а такія-сякія грашовыя субсідыі вымагаюць ад іх разумна і з доляй павагі ставіцца да чытача. У час, калі Закон аб дзяржаўнай мове належным чынам не выконваецца, кнігі на мове павінны адкрыць перад намі /свядомымі і недасведчанымі/ характар, багацце, узровень нацыянальнай культуры. А літаратары і ёсць стваральнікі той, лепшай будучыні нароўні з мастакамі, кампазітарамі, творчай і навуковай інтэлігенцыяй. Няўжо ж неадчувальна, што надышоў /і даўно/ той час, калі трэба прызнаць за інтэлігенцыяй яе ролю і функцыі таго «гегемона», якім абвясціў сябе той, хто меў найменшае дачыненне да разумовага патэнцыялу нацыі? Але ж каб быць кімсьці, трэба адпаведна пачуваць сябе. З вялікім болем /прынамсі, для мяне/ трэба прызнацца, што далёка не кожны літаратар уяўляе адказнасць за створанае ім, не хоча ўсведамляць вартасць напісанага, яго ўзровень і патрэбу.

Неяк давялося прачытаць зборнік Людмілы Забалоцкай «Струны памяці». /«Мастацкая літаратура», 1991/. На вялікі жаль, я не знаёмая з паэткай асабіста, бо тады, магчыма, і не нарадзіўся б гэты опус. Ды пры ўважлівым перачытанні кнігі захацелася пагутарыць з пачынаючымі аўтарамі, аматарамі і г. д. на тэму: як не трэба пісаць вершы. Не маючы нічога асабістага да спадарыні Людмілы, хачу паказаць ёй, а разам з тым і сабе, чым адрозніваецца Мастацтва ад марнавання паперы.

Тое, што паэтэса не без таленту, бачна нават па гэтай слабой па ўсіх меркаваннях кніжцы. Тут сустракаюцца цікавыя, мілагучныя вершы. Праўда, у іх ёсць радкі, якія ўспрымаюцца толькі з доляй іроніі да саміх сябе:

**У гордым сузор'і з пятнаццаці зорак**
**Ты ззяеш шчасліва і шчыра для ўсіх.**

*/«Беларусь. Трыпціх»/*

Тут і «Нязгасны пялёстак вялікай дзяржавы», і «Высокага подзвігу горды працяг», і гімн, дзе «чаканіцца кожнае слова». Але

---

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ

**АЎРУЦІН Анатоль Юр'евіч.** Паэт. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт /1972/. Галоўны рэдактар часопіса «Личная жизнь».

Літаратурную працу пачаў у 1972 годзе.

Аўтар кніг «Снегопад в июле» /1979/, «Поворотный круг» /1983/, «...От мира сего» /1991/.

**ЖУК Анатоль Аляксандравіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Ярэмічы Карэліцкага раёна. Скончыў Беларускі тэатрально-мастацкі інстытут /1970/. Акцёр Рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

Аўтар кнігі «Помста матылькоў» /1991/, кінасцэнарыя «Зязюльчыны дзеці» /1990/.

**ІГНАЦЕНКА Рыгор Канстанцінавіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Вусаўка Касцюковіцкага раёна. Скончыў народны універсітэт мастацтваў у Маскве /1980/.

Літаратурную працу пачаў у 1960 годзе.

Аўтар кніг «Лясныя тынкоўшчыкі»

паміж свечкай і вежамі прывідам калыхаўся сцяг чамусьці вельмі цёмнага колеру.

— Ты думаеш, яны прыйдуць? — папытала яна, прыхінуўшыся да ягонага пляча.

Ён прыгарнуў яе да сябе, ахапіў рукою за стан. Крышку стала цяплей і спакайней. Яна абвіла рукамі яго шыю, торкнулася лбом у яго шчаку.

— Я прашу цябе... Мы ўжо не ў тым узросце... Што б ні здарылася — ніякіх партый. Трэба крышку пажыць для сябе. У мяне такое ўяўленне, што мы не жылі. Хтосьці ўнушыў нам, што мы павінны змагацца. Вось мы і змагаемся адзін з адным, як неразумныя, упартыя жывёліны, увесь час урожкі, — яна стоена ўздыхнула. — Божа, а колькі змарнавана часу на розныя сходы, гаварыльні, палітзаняткі! І ўсё пад прымусам. Успамінаць страшна. Ведаеш, я ніколі не лічыла сябе дурніцай, але ніколі не магла ўчытацца, засвоіць і, галоўнае, пераказаць якую-небудзь прамову Брэжнева. Божа, будзь літасцівы і аддай мне згублены час. На справы, на ўнукаў, на любоў... Сокал мой, — яна пацалавала яго ў шчаку, — а колькі папачакала я цябе з розных сходаў, колькі спазнала самоты. І каб жа гэта дало вынікі, а то бачыш, што творыцца. Не, чалавека не пераробіш, і прыродаю дадзенае — не адымеш.

Яны стаялі, абняўшыся, шчака да шчакі.

— Сокал мой, зразумей мяне, — зноў гаварыла яна. — Нам трэба проста пажыць.

— Так, спадарыня мая. Я згодзен з табою. — Ён гаварыў ціха і пяшчотна, але, як ёй здавалася, не зусім сур'ёзна. Суцяшалася толькі тым, што гэта заўсёдная яго манера гаварыць з ёю, раней яна часам не разумела, калі ён гаворыць сур'ёзна, калі жартуе. Яны абое размаўлялі шэптам, не таму, што баяліся падслухвання, а з іншай прычыны: на канапе, пасопваючы, спаў унук, маленькі неслух, якога яны моцна любілі і заўсёды забіралі да сябе на выхадныя.

— Як я чакаю вясны! Як ніколі. Зацвіце наш сад. У мяне захлынаецца сэрца радасцю. Наш сад... Наш дом. Як мне міла і ўтульна там. А цяпер меней усялякіх грамадскіх клопатаў, і мы павязём туды нашага хлопчыка. Яму будзе ўсё цікава. Разумееш, у яго зараз такая пара, калі ён пачынае ўсё разумець і засвойваць. Трэба расказваць і паказваць. Ён павінен убачыць і нават пачуць, як прабіваецца і расце трава, як птушка ўе кубло, гадуе птушанят. Ты абавязкова зробіш шпакоўніцу. Мы прымацуем яе на яблыні... Ён павінен усё гэта любіць, берагчы...

Захопленая марамі, яна хвіліну памаўчала, кароткую хвіліну.

— Ён будзе бегаць па двары, а мы — сядзець пад калінаю і... цалавацца... — Яна ціхенька засмяялася. Потым зноў гаварыла і гаварыла, можа, каб зняць трывогу, заглушыць яе. І ён слухаў яе шэпт, як шолах саду перад навальніцай, саду, абцяжаранага пладамі, якія можа пазрываць, атрэсці вецер. Ён пазіраў у акно, на край неба, які крышку пачынаў праясняцца, але быў яшчэ свінцовы, цяжкі. Аціх вал шуму, адкаціўся далей, і вецер, што, як сабака, насіўся па двары, грымеў ланцугом і рыскалам, улёгся, супакоіўся. Так заўсёды ўсё супакойваецца ў прыродзе пад ранак. Самы час, калі чалавек губляе пільнасць.

— Зірні, — ён павярнуў яе да акна, не чакаючы, пакуль яна закончыць думку. Чырвоны?

Ён лёгка адхінуў яе ад сябе, пачаў апранацца, хутка, як салдат у час трывогі. Яна не паспела нават ачомацца, як ён быў ужо ў гарнітуры, нацягваў шкарпэткі.

— Ты некуды пойдзеш? — пыталася яна разгублена, — Куды? Мы ж з табою дамовіліся...

Яна ў доўгай белай кашулі стаяла перад ім. Потым спахапілася, замітусілася па пакоі, разгублена шукаючы апратку, але нічога не знаходзіла, апроч вязанай хусткі. Ускінула яе на плечы.

— Я з табою! — Яна кінулася за ім. — Я з табою...

— Супакойся, — ён пагладзіў яе па галаве, як дзіця, расчапіў яе рукі. — Табе нельга. У цябе, — паказаў на канапу, дзе спаў унук, — дзіця...

Яна, здаецца, толькі цяпер зразумела, што дзіця малое і нельга яго пакінуць адно. Разгублена развяла рукі пад белай махрастай хусткаю. Яны нагадвалі крылы, крылы параненай птушкі, якая не можа ўзляцець. Так, апусціўшы крылы, яна і стаяла між імі. Сэрца яе балюча разрывалася напал. Яна заплакала. Ён падышоў, пацалаваў яе ў шчаку, як заўсёды раніцай, ідучы на службу. Яна як знямела. Ачнулася толькі тады, калі ляпнулі, зачыняючыся, дзверы і пачуліся ягоныя крокі на калідоры.

«Ён пайшоў, ён пайшоў... Навошта... Куды... Няўжо, няўжо гэта пачалося і ў нас? Божа мой, Божа літасцівы, не дапусці! Уразумі іх! Уратуй ад вар'яцтва. Гэта вар'яцтва ваяваць за ідэю, якая, так і глядзі, зноў акажацца падманам. Толькі не гэта...»

Спадарыня Ева кінулася да акна, дзе яны толькі што стаялі ўдваіх з мужам, прыхінулася да шкла. Узіралася цяпер не ў далячынь, а ўніз, на тратуар, дзе ён павінен быў ісці. Але марна. Морак, густы, вязкі, заліў усё, як смалою. Было ўяўленне, што яго не разгоніць новы дзень. Выдавала там пуста і халадна, як у космасе.

«Божа мой, у мяне заўсёды звязаныя рукі. Спачатку — дзеці, цяпер — гэтая малеча. Але я павінна быць там. Быць там...»

Спадарыня Ева паспакайнела, наступіла цвярозасць, а з ёю ўпэўненасць.

— Хлопчык мой, мілы, уставай. Уставай, дзіцятка.

Яна гладзіла ўнука, асцярожна дакраналася да яго ручак, як заўсёды, калі будзіла ў садок.

— Уставай, мой маленькі.

Ён, як салдацік, усхапіўся, праціраў кулачкамі вочкі.

— Мы ўжо едзем на дачу? У вёску? Дзядуня пайшоў па машыну?

Не дабіўшыся ад яе адказу, куды яны пойдуць, ён на ўсякі выпадак прылёг яшчэ на падушку: калі ў садок, дык ён не хоча.

— Хуценька, хуценька, — прасіла яна, — апранайся. Пойдзем... на вуліцу.

— Дзе ж наш Сокал?

— Ён там, ён чакае.

Малы кінуўся да акна.

— Ён там, на рабоце? — папытаў, тыцнуўшы пальчыкам у паветра. — Там, дзе сцяг? А дзе ж сцяг? Сцяга няма...

Спадарыня Ева таксама зірнула на Дом урада. На даху яго, там, дзе заўсёды быў сцяг, было нязвыкла пуста. Так, яна ясна бачыла абрысы даху, камякаватае неба над ім, падсвечанае ці то ўзыходзячым сонцам, ці то аранжавым зарывам, а сцяга не было. Гэта яшчэ болей устрывожыла яе. Дрыжачымі рукамі яна апранала малога і ў той жа час супакойвала сябе думкамі: «Каб па-добраму — усім нам зараз трэба зняць усялякія сцягі, выкінуць з галавы падманныя ідэі. Проста жыць. Кожнаму рабіць сваю справу. А гэта ўсё гульня, гульня... Ужо аднойчы была гэткая — у чырвоных і белых. Крывавая гульня... І зноў гэтыя перафарбаваныя ўцягваюць народ у гульню. Каторы год моцныя мужыкі сядзяць, склаўшы рукі, перад тэлевізарамі і сочаць, як некалі, калі стадыёны раўлі, пазіраючы на футбалістаў. Што, калі і зараз яны павераць у сапраўднасць, успрымуць як належнае». Галава яе гарэла, і думкі былі вострыя, палкія, нібы яна гаварыла перад людзьмі.

Нарэшце яна выбавіла малога на вуліцу, на гэтае зусім незямное, аранжавае, мітуслівае, як ад паходняў, святло, што перамяжалася са змрокам.

Вуліца кішэла народам. Людзі высыпалі са сваіх дамоў, бы прадчуваючы землятрус і ратуючыся ад яго.

Спадарыня Ева праціскалася між людзей, бралася бліжэй да дамоў, дварамі, нацянькі. Яна моцна, аж замлела рука, сутаргава трымала ўнука, адчуваючы ў далоні яго халодныя пальчыкі. Шчыльны натоўп перагарадзіў ёй дарогу. Яна заўсёды баялася натоўпу, не любіла спяваць у хоры, але іншага выйсця не было. Яна тыцкалася, як мыш, у шчыліны, але дарэмна, прабіцца наперад не магла. Лезці, штурхацца — не хацела, баялася за дзіця. Узяла малога на рукі. І цяпер з ім безупынна сноўдалася між людзей, што стаялі, нечага чакалі, ці слухалі. Можа, гэтага, з чырвоным мегафонам, што закрыў ягоны твар? Чалавек-мегафон штосьці крычаў, ажно балюча было вушам. «Таварышы, таварышы! — прыспешваў ён. — Строімся ў калону... Да плошчы Леніна... Да плошчы Леніна!» — паўтараў трубна, перакрываючы ўсе галасы. Народ пачаў мітусіцца, перасыпацца, як пясок. І яе зацягвала ў натоўп, як у дрыгву. А чалавек-мегафон быў зусім побач і загадваў ёй: «Да плошчы... Да плошчы Леніна» — «Мне да Незалежнасці!» — цвёрда адказала яна, толькі зараз сцяміўшы, што гэта адна і тая ж плошча. Цяпер шмат стала двaістасці.

— Спадарыня Ева, спадарыня Ева! — пачуўся знаёмы сяброўскі голас, і яна памкнулася на яго. Але чалавек-мегафон перагарадзіў ёй дарогу. Яна нікога і нічога не бачыла, апроч яго. «Спадарыня, спадарыня, ха-ха-ха...» — раскаціста рагатаў ён на ўсю вуліцу.

Натоўп зноў завірыў, закруціў яе ў сваім віры. Людская, напорыстая хваля, як прыліў, выкінула яе да нейкай сцяны. Яна агледзелася, пазнала знаёмы завулак з вельмі бытавою, як здавалася раней, назваю: нешта накшталт Камучальнага. Яна хацела падацца туды, каб паўз раку, нацянькі прайсці да праспекта Скарыны. Але ў завулку чорнымі грамадамі стаялі машыны, якраз такія, як некалі на першым святкаванні «Дзядоў». Яна, міжволі сціснуўшы руку малога, спынілася, потым пачала адступаць, вяртацца. Адышоўшыся і адкінуўшы страх, разважала: «Можа, гэта проста палівачныя машыны, а мне здалося — варанкі... Дык чаму іх ніколі не відно на вуліцах? Горад задыхаецца пылам».

Па праспекце таксама людзі ішлі валам. Сяк-так фармаваліся калоны. Гэта было падобна на былую рэпетыцыю перад святам. Наперадзе калон ішлі сцяганосцы. Але — ці сцяганосцы былі няўпартыя ці сцягам патрэбен быў вецер, а яго не было — сцягі абвялі, віселі, як звычайныя анучы.

Спадарыню Еву клікалі то ў адну, то ў другую калону, але яна паказвала на ўнука: маўляў, не магу, я з дзіцем. І паціху пасоўвалася далей. Яна імкнулася на плошчу Незалежнасці: была ўпэўнена — там яе Сокал. Яна знойдзе яго, яна будзе з ім.

Насустрач ёй рухаўся невялікі атрад. Здзівіў ягоны сцяг, смуткава-чорны, прыспушчаны, як бы некага хавалі. Яна пастаранілася. Нехта, мусіць, пазнаў яе, аклікнуў, але хто, яна не ведала. Адказала, як і раней: «Я з дзіцем, з дзіцем».

І тут «які жах!» хтосьці незнаёмы, адбегшыся ад калоны пад чорным сцягам, схапіў за руку яе ўнука і хуценька рушыў у строй. Хлопчык усё азіраўся: незнаёмы, відаць, трымаў яго чэпка. Спадарыня Ева памкнулася за ім, рванулася, што было моцы, горла перацяў роспачны крык. Яшчэ хвіліну-другую яна бачыла, як борздзенька пайшла калона, і ён, адстаючы, тупаў ножкамі ўподбег. Крык разрываў яе грудзі, а ногі адзеравянелі і, здаецца, ураслі ў асфальт, як гэта заўсёды бывае ў сне. Людская хваля раз'яднала іх. Спадарыня Ева намаглася, сабрала ўсю сваю сілу, скарыстала кулакі і локці. Ішла, як шаршатка, прашываючы натоўп. Вось і прасветліна, як азерца сярод лесу. Стала брацца яго беражком.

«Дарогу, дарогу...» Яе адціскалі, адштурхоўвалі, не давалі выйсці на прасеку вуліцы. «Парламент ідзе! Парламент...» Яна зноў пастаранілася, спынілася, каб прапусціць, стала наўзбочку. А пасярод шырокага — народ расступіўся на колькі можна было — праспекта ішлі нямоглыя старыя, намацваючы дарогу кійкамі. Людзі пачціва прапусцілі іх, потым рушылі ўслед. «Трэба ісці за імі, за імі. Яны ведаюць дарогу!» — чуліся галасы. Былі і такія, хто сумняваўся.

Дзядкі ішлі няроўна. То збіваліся ў гурт, бы раіліся, куды ісці, то нехта выбіваўся з гурту і крочыў паперадзе, як важак. Хтоніхто з натоўпу выскокваў да іх, паказваў дарогу, але яны не зважалі на падказкі. Народ адусюль нешта крычаў ім, але было ўяўленне, што яны не чуюць.

«Яны яшчэ і глухія», — з жахам і расчараваннем падумала яна.

Але народ валам валіў за імі. Тым, хто ішоў далёка ззаду, не відно было, якія яны старыя, сляпыя і глухія. І, як хваля, перакочвалася пагалоска: «Ідзём да Беларусі! Да Беларусі...» Калона раўнела, большала, выцягвалася, як магазінная чарга. І тыя, хто падыходзіў пазней, пыталіся: «Да Беларусі?» і чулі ў адказ: «Да Беларусі!»

Спадарыня Ева штосьці крычала ім, не чуючы свайго голасу. І такі дакрычалася: некаторыя павярнулі галовы, і яна ўбачыла іх вочы: насмешлівыя і хітрыя.

«Яны прытвараюцца!? — гаварыла яна людзям. — Яны не хочуць нас слухаць. Яны не жадаюць бачыць і чуць нас».

Натоўп завірыў, ускалыхнуўся, і зноў панесла яе хваля. Вярнуцца і ісці, куды хочаш, было ўжо немагчыма. Яна і не заўважыла, як апынулася наперадзе, у самым цэнтры калоны, а насустрач, на ўсход, рухалася, кацілася валам іншая хваля пад суверэннымі сцягамі, якія прыкрывалі тых, хто ішоў наперадзе. Сцягоў было шмат. Яны махалі імі, прынароўлівалі да павеваў імі ж створанага ветру. На момант ёй здалося, што сцягі — гэта прыкрыццё, такая ж хітрасць, як Траянскі конь. Але адступаць не было куды, ісці наперад таксама, а размінуцца не так проста. Яна са страхам чакала, што вось-вось сутыкнуцца дзве нястрымныя людскія лавіны, сутыкнуцца пад націскам тых, хто слепа ідзе ззаду. Бо няма мацнейшай сілы, чым сіла сляпая. Спрабавала суцішыць страх, разабрацца: хто яны і куды ідуць, чытала іх лозунгі, адозвы, якія яны рассыпалі, як снег. Штосьці знаёмае, але цьмянае, як успамін. Яны абяцалі змены, хуткія змены, калі «патокам пальюцца багацці». «Гэта ўжо было». Яна ў роспачы хапілася за галаву. Яшчэ і таму, што там, за сцягамі — няўжо ён дальтонік? — яна ўбачыла яго, свайго Сокала. «А-а-а», — вырваўся з грудзей боль.

А плошча гула, як вулей. Як магло стацца, што, як шпагі, скрыжаваліся іх шляхі? Яна заўсёды з жаночай мяккасцю саступала яму, шукала паразумення, згоды, а зараз... Разважаць не было часу. Калону, у якой яна ішла, клінам, прыёмам крыжакоў, рассякала сустрэчная, напорыстая, моцная. І ў тых, хто мінаў і штурхаў яе, яна ўсё яшчэ пыталася: «Куды вы? Куды...» — «Да Расіі, — быў адказ. — Да Расіі».

Плошча вірыла, кіпела, як кацёл, у якім варыліся вера і падман, радасць і злосць, адчай і надзея... Той надзвычайны бальзам, глыток якога, магчыма, калі-небудзь дасць спакой і раўнавагу грамадству, або стане атрутай.

Спадарыня Ева, прыціснутая да шурпатай сцяны вялізнага дома, бездапаможна абсунулася на тратуар. Сядзела, як жабрачка, не падымаючы галавы. І толькі металічны звон прымусіў яе ўздрыгнуць. Кінулася ў вочы бліскучая бляшанка каля ног, а ў ёй некалькі грошаў. Побач сядзела зморшчаная старая: гэта яна і падсунула гэтую бляшанку. Угледзелася ў яе твар, пашукала знаёмыя рысы /несумненна мы сустракаліся раней/, але твар быў заплецены павуцінаю маршчын. Позіркам яна спрабавала сцерці іх, але марна. «Няўжо і я... — жахнулася ў думках. — Яшчэ ж не жыла». Вобмацкам шукала люстэрка, азірала сябе. Здзівілася, што адзежа ператварылася ў лахманы.

— Да чаго яны нас давялі, — паківала галавою старая.

— Мне проста здрадзілі былыя таварышы па партыі, — з годнасцю сказала спадарыня Ева, ускінуўшы галаву. Над плошчаю рассейваўся туман, сыходзіў паўзмрок, нібы пачынаўся досвітак пасля маскараду. Вецер ганяў абрыўкі газет, снег адозваў, стужкі лозунгаў. Перацёртыя нагамі сцягі валяліся, як анучы.

— Мы самі вінаватыя, што ўвязаліся ў гэтую гульню. У нас дзеці, унукі...

— Мае разышліся рознымі шляхамі, я цяпер адна, як і ты.

— Але трэба жыць...

...Дом быў пусты і трывожна прыціхлы. Спадарыня Ева прысела ля стала, стомленая, абыякавая. Варухнулася, калі адчыніліся дзверы. Божа мой, яна ледзьве пазнала яго: твар увесь сіні, пабіты, на губах запяклася кроў. Ён набліжаўся да яе, кульгаючы. Яна абняла яго і заплакала, прыгаворваючы:

— Сокал мой, я ж гаварыла табе, я прасіла...

— Мы ўсе хворыя, нам трэба ачуняць, таму я і прыйшоў да цябе. — Ён сеў на падлозе і абняў яе калені.

...Спадарыня Ева адкрыла вочы. Няўцямна агледзела пакой, нібы вяртаючыся з небыцця. Зірнула на мужа, які спаў на ложку побач. Яшчэ не вярнуўшыся да рэальнасці, у паўзмроку разглядала яго твар, прыхінулася, абняла.

— Госпадзі, — прашаптала, — як добра, што гэта сон, толькі сон.

Прыціснулася да яго, абняла. І ён паддаўся яе пяшчоце, даў ёй у поўную сілу зразумець, што жывы і здаровы, поўны сілы і энергіі.

— Табе штосьці прыснілася? Страшнае?

І яна пачала расказваць. Потым яны, як у яе сне, стаялі абняўшыся ля акна, пазіралі на высокія дамы за ракою, якія падобны на вежы, свечкі, на сцяг, што лунаў у далечыні на даху Дома ўрада.

— Скажы, чаму ён заўсёды рвецца ў адзін бок? Хіба вецер заўсёды дзьме ў адным напрамку?

Ён, засцігнуты нечаканасцю пытання і яго недарэчнасцю, маўчаў.

— Разумею. Ён на штучным паддуве, — разважыла яна. — Сцяг памянялі, а паддуў застаўся ўсё той жа. І неяк хуценька, без спрэчак памянялі. Няўжо яны збіраюцца вярнуцца?

— Парламент даў дазвол на легальнасць.

— Гэта яшчэ нічога не значыць.

— Як сказаць...

Яны размаўлялі ціхенька, бо на канапе, пасопваючы, спаў унук.

А там, далёка над світанкам, лунаў сцяг. І яны, як загіпнатызаваныя, пазіралі на яго.

— Табе не здаецца, што ён чырвоны? — з трывогаю папытала яна.

Ён толькі кіўнуў галавою і пачаў хутка апранацца.

— Божа мой, ці не сон гэта? — роспачна прашаптала яна. — А ўрэшце, усё наша жыццё як сон...

# УСПАМІН ПРА «ЗАЛАТЫ ВЕК» — НА ПАРОЗЕ III ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

*(Пачатак на стар. 5)*

Што ж датычыцца паэтаў, дык іх у нас толькі двое — Алесь Разанаў і Алег Бембель /Зніч/. Але плату яны атрымоўваюць /ці, прынамсі, павінны атрымоўваць/ не за літаратурную, а за навуковую творчасць. Алесь Разанаў — яшчэ і ўдумлівы даследчык, кваліфікаваны рэдактар. Мецэнатствам за кошт кволага дзяржбюджэту мы не маем права займацца. Гэта, мабыць, зразумела Галіна Дубянецкая, чые паэтычныя здольнасці я стаўлю вельмі высока, — і падала заяву на звальненне. Для мяне гэта было трагедыяй, але — непазбежнай. Як і паступленне ў аспірантуру Ігара Бабкова.

**— Але, як кажуць, незаменных людзей няма. Хто цяпер складае ядро калектыву, рэалізоўвае навуковыя праграмы?**

— Што датычыцца калектыву, то, я лічу, ён сапраўды складаецца ў сваёй большасці з асоб. Адны з іх, да прыкладу Уладзімір Анічэнка, Генадзь Каханоўскі, Уладзімір Конан, Вячаслаў Рагойша, Алесь Разанаў, Мая Яніцкая, ужо рэалізаваліся як творцы, як даследчыкі, іншыя /Алесь Анціпенка, Эдуард Дубянецкі, Лідзія Кулажанка, Сяргей Купцоў, Захар Шыбека/ актыўна выяўляюць свае індывідуальнае «я». Прыходзяць неардынарныя людзі, якія пачынаюць новыя напрамкі: Юрка Вашкевіч — «польскі», Янка Войніч — «літоўскі», Віталь Зайка, які цяпер знаходзіцца на гадавой стажыроўцы ў Оксфардзе, — «габрэйскі», Мікола Матрунчык — «праваслаўны», Святлана Грачухіна, якая атрымала трохгадовую стажыроўку ў Рыме, — «каталіцкі», Сяргей Абламейка — «уніяцкі». А чым не індывідуальнасці Вольга Гапоненка і Марыя Міцкевіч, што працуюць на пагранічны «фізікі» і «лірыкі», ці Юрась Жалезка, які вывучыў з дзесятак замежных моў, перакладае на кожную з іх і да таго пачаў пісаць вершы?!

Ёсць у нас і нямала «непрыкметных» у друку людзей /Валянціна Грышкевіч, Браніслава Котава, Уладзімір Ларчанка, Таццяна Махнач, Наталля Пятровіч, Галіна Урупіна/, якія робяць «чарнавую» работу: запаўняюць бібліяграфічныя карткі для Банка інфармацыі, сістэматызуюць архіўныя крыніцы, складаюць даведнік «Літаратурныя мясціны Беларусі». Але гэта якраз — тая глеба, без якой нельга ўзрасціць ураджай нацыянальнага адраджэння.

**— Як бы вы, спадар Мальдзіс, не імкнуліся стварыць бачнасць бесканфліктнасці ў калектыве, ды мушу, аднак, вам пярэшкодзіць... Непаразуменне між старэйшымі і малодшымі ў грамадстве ўвогуле, а ў гуманітарнай навуцы і пагатоў, існавала заўжды. Наколькі гэтая праблема актуальная для калектыву «скарынаўцаў»?**

— Сваім малодшым калегам я хацеў бы пажадаць толькі аднаго: пераўзысці нас! Пераўзысці найперш сваёй працавітасцю, павагаю да таго ж Факта. І больш смела, у параўнанні з нашым, усё ж закамплексаваным пакаленнем, уваходзіць у Еўропу, лепш ведаць мовы, здабыткі заходняй культуры. А яшчэ — ніколі не зведаць таго, што зведалі мы ў часы таталітарызму. Каўбаса /прынамсі, ліверная/ тады нібыта і была. Але быў і страх.

**— Што ж, каб вашае пажаданне і Богу ў вушы... Але, на маю думку, будзе справядлівым прызнаць, што маладое пакаленне застаецца заложнікам спадчыннага страху старэйшага пакалення. Прыклады? Не была адзначана дзяржаўнай прэміяй за 1992 г. фундаментальная праца па скарыназнаўстве — з-за таго, што ўзніклі рознатлумачэнні /«спадкінутыя збоку»/ імя і вераспавядання Скарыны: ці то «Францыск», ці то «Францішак», ці то «Георгій»; ці то праваслаўны, ці то католік... Дзе тут ісціна, урэшце?**

— Імя Скарыны — не прадмет для спекуляцый, тым больш у лістах, адрасаваных Камітэту па дзяржпрэміях, які на дзве трэці складаецца з прадстаўнікоў дакладных навук і таму не змог адразу разабрацца, адкуль і чаму пайшлі сумненні. Скарыну трэба называць толькі так, як ён называў /у прадмовах і пасляслоўях да перакладу Біблії/ сябе сам: Францыскам /часцей/ ці Францішкам /радзей/. Безумоўна, да каталіцкага хрышчэння /для мяне гэта несумненны факт/ у яго было праваслаўнае імя. Можа — і Георгій. Але гэта трэба яшчэ даказаць. Абапіраючыся на дакументы, а не на магчымую апіску каралеўскага канцылярыста.

Што датычыцца веравызнання Скарыны, дык для мяне бясспрэчна, што, будучы католікам і адрасуючы свае выданні праваслаўнаму люду «посполитому», паядноўваючы ўсходні і заходні абрады, ён найперш пачуваў сябе хрысціянінам, чым паказвае прыклад і нам. Абапіраўся на старажытнахрысціянскія традыцыі. Прадбачыў, што рэлігійнае супрацьстаянне фатальна адаб'ецца на лёсе яго народа, яго нацыянальнай самасвядомасці. Тут Скарына блізкі да ідэй сучаснага экуменізму. Як і полацкія бернардзінцы /паводле Я. Кантака, у іх, паслядоўнікаў св. Францішка, сям'я Скарынаў прыняла хрост/, што, хрысцячы ў каталіцкую веру, прызнавалі важным і першы, праваслаўны хрост.

Адсюль — і «надканфесійнасць» Скарыны, адчуванне належнасці і да праваслаўнага, і да каталіцкага светаў. Найперш Скарына — Асоба, пачынальнік беларускага Адраджэння. Яго веліч /асабліва як першастваральніка Біблії/ мы, як паказвае практыка, цяпер толькі пачынаем усведамляць...

**— Быў Скарына і ці не першым беларускім прадпрымальнікам, што сам шукаў сродкі на выданне сваіх кніг, займаўся камерцыяй. Выдае, Скарынаўскі цэнтр не пазбег долі свайго патрона: вядома пра вашыя сувязі з фондам амерыканскага капіталіста Дж. Сораса. Па-ранейшаму за мяжой лягчэй знайсці паразуменне ў культурных патрэбах, чым у роднай дзяржаве?**

— З фондам «Сорас — Беларусь» у нас сапраўды усталёўваюцца добрыя адносіны. Яго кіраўнік, спадарыня Элізабет Смэдлі, прапанавала мне ўвайсці ў лік яго заснавальнікаў /вядома — сімвалічных, бо ўклад тут магчымы толькі ў выглядзе ідэй/. Але да якога канкрэтнага фінансавання яшчэ далекавата. Таму спадзяёмся найперш на свае сілы. Пры ўдзеле Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў створаны навукова-вытворчы цэнтр «Аднова», на чале якога стаў вопытны і ініцыятыўны прадпрымальнік Аляксей Кудрэйка. Займецца ён і выдавецкай дзейнасцю. А пры нашым Цэнтры ствараецца дабрачынны фонд «Скарынія».

Адчуваем мы дапамогу і ад вядомай беларускай фірмы «Дайнова»: Верыцца, нашы мамантавы, траццяковы і марозавы — на падыходзе.

**— Але і дзяржава нашая не такая, відаць, бедная, як нам здаецца... Ды беларус не надта каб спадзяваўся на дзяржаву ў развіцці культуры, больш глядзіць на Захад, на прадпрымальніцтва. У такім разе наколькі апраўдана правядзенне З'езду беларусаў свету летам 1993 г.? У ім, безумоўна, зацікаўлены ўрад, каб памірыцца з эміграцыяй, ды якой карысці ад гэтага запозненага з'езду беларускім дзеячам у свеце?**

— Згодзен, што з правядзеннем Сусветнага форуму беларусаў мы /як і ў шмат чым іншым/ недаравальна спазніліся. Але — лепш позна, чым ніколі. Карысць ад такога з'езду павінна быць пры любых акалічнасцях. Толькі не трэба ўскладаць на яго празмерныя, нерэальныя надзеі, празмерна яго палітызаваць. Калі мы абмяркуем сродкі нашага нацыянальнага адраджэння, вызначым шляхі канкрэтнага супрацоўніцтва — і то будзе добра. Да таго ж не трэба забываць, што некаторыя нашы суайчыннікі не былі на роднай зямлі цэлую вечнасць, што перад многімі з іх мы вінаваты, зрабіўшы з ахвяр трагічных абставінаў нашых «чорных ворагаў».

**— А вам не прыходзіла такая фантастычная аналогія: як вядома, у 1923 годзе савецкая ўлада абвясціла палітычную амністыю эміграцыі, і тады шмат хто з дзеячаў беларускіх партый, органаў БНР, спакушаны г. зв. беларусізацыяй, вярнуўся на Радзіму; чым скончылася «беларусізацыя», добра вядома, вядомы і сумны лёс беларусаў-вяртанцаў... Наколькі такі ж варыянт развіцця палітычных падзей, на вашу думку, магчымы зараз?**

— Як кажуць у народзе, «ціпун вам на язык»... Хаця магчымасць ваеннага перавароту або якога яго трагічнага варыянту я не выключаю. Больш таго, часта адчуваю /асабліва па прэсе/ яго «дыханне». Бо Беларусь сёння нашпігавана войскам, да таго незадаволеным, так, як ніякая, бадай, іншая краіна. Але я веру ў розум, у разуменне таго, што такі чын адкінуў бы нас яшчэ на дзесяцігоддзі назад.

Апроч таго, нашы суродзічы, у адрозненне ад 1923 года, прыедуць сюды толькі на некалькі летніх, купальскіх дзён...

**— У комплексе праблем, звязаных з будоўляй Усебеларускага Дома, акрамя метафарычнай часткі, ёсць і рэчы зусім канкрэтныя. Напрыклад, працэс вяртання твораў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў, што «шляхамі няправеднымі» апынуліся за мяжою. Вы, як вядома, уваходзіце ў абедзве «камісіі вяртання» — Беларускага фонду культуры і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Вы можаце сёння параўнаць, які аб'ём культурнай спадчыны беларусаў знаходзіцца тут, дома, а які — па-за межамі краіны? І ці мажліва неяк храналагічна ўзнавіць працэс вывазу культурных каштоўнасцяў з тэрыторыі сучаснай Беларусі, калі ён пачаўся і ў якім кірунку вывезена больш — на Захад ці на Усход?**

— Вываз каштоўнасцяў пачаўся яшчэ ў XVI стагоддзі: прыгадаем паход Івана Грознага, калі ў Маскву трапілі зборы з Полацка. Дарэчы, нядаўна ў друку прамільгнула вестка, што ў Аляксандраве выяўлена бібліятэка Івана Грознага. Калі гэта так, то трэба пацікавіцца, што там ёсць з полацкіх кніг — рукапісных і друкаваных.

Што ж датычыцца накірункаў, дык на ўсход трапіла больш, чым на захад. У пасляваенныя гады многае з таго, што было вывезена ў Германію, праследавала «транзітам» праз Беларусь — у Расію. Да прыкладу — каменныя «бабы» з Мінскага музея і інш.

Над праблемай пошукаў, фіксавання і вяртання нашых скарбаў сёння ў нашым Цэнтры працуе цэлы аддзел. Выдадзены зборнік «Вяртанне». З апублікаваных там дакументаў вынікае, што толькі ў Маскве і Пецярбургу ці толькі ў Варшаве і Кракаве беларускіх матэрыяльных каштоўнасцяў болей, чым ва ўсіх зборах Беларусі, разам узятых. Усё гэта, у сілу сваіх магчымасцей, мы імкнёмся выявіць і вярнуць. Не заўсёды, на жаль, для гэтага ёсць юрыдычныя падставы. У такім выпадку вяртанне — гэта публікацыя, мікрафільмаванне або дэманстрацыя на абменных выстаўках.

**— Ці існуе нейкая дзейсная працэдура вяртання духоўнай спадчыны — хаця б у межах СНД, і чаго можна чакаць у гэтай справе ў бліжэйшы час?**

— Дзеля гэтага створана спецыяльная міждзяржаўная камісія. Нядаўна ў Мінску адбылося яе першае пасяджэнне. Мы распрацавалі праект адпаведнага пагаднення паміж краінамі СНД, палажэнне аб дзейнасці камісіі. Але... прадстаўнікі Расійскай Федэрацыі на пасяджэнне не з'явіліся і нічым сваю адсутнасць не растлумачылі...

Больш перспектыўна, на мой погляд, выглядаюць нашы двухбаковыя, беларуска-украінскія, беларуска-літоўскія і беларуска-польскія ўзаемадачыненні. Перамовы, афіцыйныя і напаўафіцыйныя, тут ужо вядуцца, і яны могуць даць добры плён. Прынамсі, новы міністр культуры і адукацыі Літвы спадар Д. Трынкунас у час візіту ў Мінск прыхільна аднёсся да ідэі аднаўлення Віленскага беларускага музея, украінскія калегі — да вяртання ў Гародню бібліятэкі Храптовіча.

У Навагрудскі краязнаўчы музей перададзены архіў ураджэнца Беларусі, аднаго з пачынальнікаў амерыканскай астранаўтыкі прафесара Барыса Кіта, што цяпер жыве ў Германіі. Трэба думаць, працэс гэты будзе развівацца.

**— Мне здаецца, наша грамадскасць яшчэ не ўсвядоміла як след, што гэта значыць — *не мець* у сябе дома большую частку спадчыны... Ды на што, на якія рэаліі спадзявацца у такім становішчы? Вы, наколькі мне вядома, прыхільнік беларуска-літоўскага геапалітычнага паяднання?**

— У будучыню, аднак, гляджу аптымістычна. Бо ўнутраны, духоўны патэнцыял беларускай нацыі яшчэ не рэалізаваны. І рэалізуецца ён, відаць, не раней, чым у новым тысячагоддзі. Што ж датычыцца беларуска-літоўскай супольнасці, то само жыццё, эканамічныя і палітычныя крызіс падштурхоўваюць нас /як бы мы таму ні супраціўляліся/ да такога з'яднання. Гэта адпавядала б нашай гістарычнай традыцыі /«залаты век» у Вялікім княстве Літоўскім/, інтарэсам абодвух народаў. Тая граніца, на якую цяпер затрачваецца столькі сродкаў, была праведзена адвольна, «па жывому», і тое, што творыцца на гэтай граніцы /да прыкладу, у маіх Гудагаях/ нагадвае змрочны фарс, патрэбны хіба што прыхільнікам новых карабахаў ці босній...

Беларуска-літоўская супольнасць павінна стаць часткай цэнтральнаеўрапейскай супольнасці. Нездарма географы сцвярджаюць, што цэнтр Еўропы знаходзіцца недалёка ад Мінска.

**— Дзякуй, Адам Восіпавіч, за гутарку, і хай зладжваецца надалей праца Цэнтра імя Ф. Скарыны.**

## ПАЖЫВЁМ -- ПАБАЧЫМ?

Аматары літаратуры, канечне ж, не маглі не заўважыць, як рэгулярна апошнім часам з'яўляюцца кніжныя навінкі, выпушчаныя выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Вядома, іх не так шмат, як, скажам, гадоў пяць назад, аднак жа зрухі ў бок паляпшэння відавочныя. Глядзіць выдавецтва і ў перспектыву — толькі што з'явіўся тэматычны план на 1994 год. Праўда, пазіцый у ім паменела, усяго 139 назваў /для параўнання: у сёлетнім — 150/, з іх больш сарака перанесена з 1993 года і з іншых. Але калі б і гэтыя намеры ўдалося ажыццявіць, выйшла б нямала цікавых кніг.

Па раздзеле прозы — гэта новыя творы В. Адамчыка, А. Асіпенкі, Г. Багданавай, Б. Беляжэнкі, У. Дамашэвіча, М. Дубоўскага, А. Кажадуба, В. Карамазава, С. Кухарава, Я. Міклашэўскага, П. Місько, В. Мыслівца, І.Навуменкі, У. Навумовіча, Я. Пархуты, У. Рубанава, У. Саламахі, А. Сульянава, А. Федарэнкі, М. Філіповіч, А. Шлега і іншых. Багаты і раздзел паэзіі: В. Аксак, М. Аўрамчык, Г. Булыка, Л. Галубовіч, Я. Гучок, А. Дзерužынскі, Л. Дранько-Майсюк, З. Дудзюк, В. Зуёнак, А. Каско, Н. Кіслік, В. Куртаніч, С. Панізнік, П. Прыходзька, А. Русецкі, Б. Спрынчан, П. Сушко, П. Шруб...

Адбудуцца,папаўненні ў серыях — «Першая кніга празаіка» /М. Адамчык, Л. Вашко, Б. Пятровіч, П. Савоська, В. Шабалтас/, «Першая кніга паэта» /А. Пашкевіч, С. Сачанка, Л. Сільнова/.

Самыя розныя аспекты сучаснага літаратурнага працэсу, а таксама асэнсавання шляху папярэднікаў — у кнігах па крытыцы і літаратуразнаўстве Р. Барадуліна, М. Ермаловіча, Г. Кісялёва, А. Марціновіча, А. Ліса, Л. Лыча, І. Чыгрынава, У. Ягоўдзіка, А. Яскевіча. М. Мушынскі ў кнізе «Прарок слова з Мсціслаўшчыны» аналізуе жыццёвы і творчы шлях М. Гарэцкага. Плануецца чацвёрты выпуск зборніка «Шляхам гадоў».

У плане года — Зборы твораў В. Быкава, Ц. Гартнага, С. Гаўрусёва, У. Дубоўкі, А. Зарыцкага, А. Кулакоўскага, Я. Купалы, Р. Мурашкі, Я. Пушчы, выбраныя творы А. Адамовіча, Д. Бічэль-Загнетавай, Д. Бугаёва, С. Грахоўскага, Г. Далідовіча, А. Жука, А. Савіцкага, Б. Сачанкі, Д. Сімановіча, Я. Сіпакова, Р. Тармолы-Мірскага, К. Цвіркі, А. Шашкова. Паўторнымі выданнямі выходзяць лепшыя творы Т. Бондар, М. Дуксы, К. Камейшы, А. Капусціна, М. Мятліцкага, П. Пранузы, А. Рыбака.

Чакаецца папаўненне серый «Скарбы сусветнай літаратуры», «Спадчына», «Бібліятэка замежнай прозы», «З вякоў мінулых» і іншых.

КІНО

# АД «ЗІМОВАЙ ПРЭМ'ЕРЫ» ДА ЗІМОВАЙ ПРЭМ'ЕРЫ?



Літасцівы — да тэатра — лёс наканаваў так, каб некаторыя са спектакляў перамагалі сваю хуткаплынную тэатральную прыроду. Заставаліся на відэастужках. Хоць і надта ўжо далёкія ад тэатра рэжысёры ператваралі тэатральную пляцоўку ў здымачную...

Выпадак Аляксандра Карпава-малодшага — адметны. Пачынаў здымаць дакументальнае кіно. З творчай садружнасці са Стэфаніяй Станютай і Мікалаем Пінігіным вынікнула стужка «Зімовая прэм'ера», дакументальная ды іграваая адначасова. Усе акалічнасці працы над спектаклем «Гаральд і Мод» К.Хігінса і Ж.-К.Кар'ера былі адмыслова занатаваныя рэжысёрам ды аператарам.

Ніхто іншы, як Аляксандр Карпаў, адкрыў публіцы... малую сцэну Рускага тэатра Беларусі спектаклем «Метэор». Звёў, паводле крытыка Ліліі Брандабоўскай, «у «тэатральную адзінку» дзве п'есы знакамітых драматургаў — Жана Ануя і Фрыдрыха Дзюрэнмата». «Тэатральная адзінка» справакавала з'яўленне адзінкі кіно: фільм «Грэх відачынства» распавёў пра бясконцыя і, так бы мовіць, паралельныя спектаклі Рускага тэатра. На сцэне і па-за сцэнаю. Ці не ўся трупа тэатра змушана была даць рэжысёру нешта накшталт інтэрв'ю. Камера, раз-пораз адрываючыся ад Расціслава Янкоўскага ў галоўнай ролі, шныпарыла па грымёрных, касцюмерных і, галоўнае, па акцёрскіх вачах...

... Напрыканцы сёлетняга мая Аляксандр Карпаў-малодшы мусіць скончыць здымкі трэцяй вялікай тэатральнай стужкі. Стужкі паводле свайго спектакля «На Залатым возеры» /драматург — Э.Томпсан/. У галоўных ролях занятыя Аляксандра Клімава і Расціслаў Янкоўскі. Група здымае проста на малой сцэне Рускага тэатра... ад ранку да вечара. Верагодна, што ўзімку зацікаўленая публіка займее магчымасць адсвяткаваць яшчэ адну прэм'еру, — фільма паводле тэатральнага спектакля.

*На здымках: Расціслаў Янкоўскі /Норман Таер/ і Аляксандра Клімава /Этэль Таер/; Ягор Фядотаў /Білі Рэй/.*

*Фота Уладзіміра ПАНАДЫ*

ВІНШУЕМ!

# ДВАЙНЫ ЮБІЛЕЙ

Барысу Пенчуку, народнаму артысту Беларусі, прафесару Беларускай акадэміі музыкі, вядомаму вайсковаму дырыжору і... даўняму аўтару «ЛіМа» споўнілася 75. Сябры, калегі, паслядоўнікі, вучні віншавалі яго яшчэ і з 60-годдзем творчай дзейнасці. У тым, якая плённая была і ёсць яго музыканцкая праца, змаглі пераканацца госці юбіляра, што сабраліся на яго творчы вечар у Доме афіцэраў. У гонар Б. Пенчука адбыўся святочны канцэрт.

МУЗЫКА

# МАЭСТРА АЛОЎНІКАЎ У ЛІДЗЕ

У зале Лідскага музычнага вучылішча адбыўся канцэрт з удзелам лаўрэата Міжнароднага конкурсу Ігара Алоўнікава і яго вучаніцы Юліі Шалекі. «Богі музычнага Алімпа» нячаста песцяць нас сваімі прыездамі, асабліва ў апошні час. Што ж датычыць Ігара Уладзіміравіча, то ён — даўні і сталы госць Лідскага МВ.

У творах, сыграных І.Алоўнікавым, такіх розных па вобразным ладзе, такіх кантрастных /цыкл М.Мусаргскага «Карцінкі з выстаўкі», «Фарандола» з «Арлезіянкі» Ж.Бізэ, фартэпіянныя перакладанні твораў У.Алоўнікава і Я.Глебава/, — усюды пазнаваўся яркі почырк выканаўцы, адметны філіграннасцю, вытанчанасцю, адточанасцю ігры, з дзівоснай здольнасцю дасягнення разнастайных гукавых імпрэсій. Пасля свайго выступлення Ігар Уладзіміравіч сказаў:

— Раней я больш звяртаўся да творчасці Баха, Бетховена, Шапэна. Апошнім часам — да Ліста, Шастаковіча, цяпер працую над Другой санатай Рахманінава. Транскрыпцыямі займаюся яшчэ са школы. Нэпасрэдных настаўнікаў у гэтым жанры ў мяне няма. Я заўсёды вучыўся сам на творчасці класікаў: Ліста, Рахманінава, Гадоўскага. Выкарыстоўваў, вядома, і свой канцэртны вопыт. Увогуле, мала хто займаецца гэтай справай, і шкада, што гэты жанр знікае. Хацелася б назваць некаторыя імёны беларускіх піяністаў: Шуміліна, Шацкі, Мікулік, Сергяеня. Гэта музыканты розных пакаленняў, і яны з'яўляюцца носьбітамі ідэй, звязаных са сваёй эпохай. Нядаўна мы — Шацкі, Сергяеня і я — аб'ядналіся для серыі выступленняў. Дарэчы, яны выклікалі вялікую цікавасць у публікі...

Мне часта задаюць пытанне пра хобі. У мяне яно ёсць, у вольны час я люблю займацца радыёэлектронікай. Гэта вельмі магутная хваля з многіх маіх захапленняў...

Ніна РОЛІК

*г.Ліда*

# АБНОЎЛЕНАЯ «АІДА»

Што значыць «абноўленая»? У праграме спектакля друкуюцца тыя ж імёны, якія ўжо зрабіліся гісторыяй нашага ДАВТа: рэжысёр — Л.Александроўская, мастак — С.Нікалаеў, балетмайстар — К.Мулер... І ўсё ж «Аіда» Д.Вердзі, гэты «ветэран беларускай опернай сцэны», загучаў па-новаму. Пастаўлены ў свой час па-руску, спектакль выконваецца сёння на мове арыгінала /як «Тоска», як рускі класічны рэпертуар/. І, вядома, твор вялікага італьянца жыве ў галасах салістаў новай генерацыі. У апошніх спектаклях «Аіды» дэбютавалі такія майстры, як Н.Казлова /Амнерыс/, Н.Кастэнка /Аіда/ ды іх малады партнёр Ю.Слонаў /Радамэс/. Паказаная, напрыклад, 1 чэрвеня «Аіда» з іх удзелам была адкрыццём для тых, хто даўно не наведваўся на гэтую оперу. А яшчэ ў ансамблі салістаў былі два бліскучыя і такія розныя басы: У.Грашчанка ды А.Кеда. Дырыжыраваў абноўленым спектаклем А.Анісімаў. Публікі было, па цяперашніх мерках, нямала.

С.Б.

# СУМНАЯ ВЕСТКА ПРА КАРПОВІЧА

Нам паведамілі, што ў канцы мінулага года памёр на 84-м годзе жыцця беларускі кампазітар-эмігрант Алесь Карповіч. Увесь пасляваенны час аж да самага скanaння пражыў ён у паўночна-германскім горадзе Ольдэнбурзе. Алесь Карповіч меў добрае сяброўства з Міколам Равенскім, прыязджаў у Лювен, удзельнічаў як піяніст у выступленнях вядомага беларускага студэнцкага хору. Быў ён і дружбаком Янкі Запрудніка, які ў сваім развітальным слове, надрукаваным на старонках «Беларуса», адзначае: «Алесь Карповіч — светлая і заслужаная постаць на нашым гістарычным ландшафце. Ягоны жыццёвы шлях пазначаны драмай ростані з Бацькаўшчынай і верным служэннем ёй здалёк».

Янка Запруднік падае спіс творчых ды навуковых прац Карповіча, у ліку якіх — поліфанічныя творы для фартэпіяна і струннага квартэта, санатнае allegro, манаграфія пра творчасць Багатырова, Аладава, Цікоцкага, Туранкова, Падкавырава ды інш., апрацоўкі беларускіх песень, Саната для фартэпіяна, прэлюдыі, тарантэла, «Беларуская рапсодыя» для фартэпіяна, рамансы на вершы беларускіх паэтаў і шмат што іншае. Апошнім часам былі напісаны песні на словы Алеся Звонака, Валянціны Аколавай, Міхася Кавыля, Максіма Танка. Калі штосьць з гэтага прагучыць на радзіме кампазітара?

Н.К.

# ВЯРТАННЕ «АГАТКІ»

Без малога 4 гады таму гэты загаловак ужо з'яўляўся на старонках «ЛіМа». Тады, 28.07.89 г., пад рубрыкай «З музычнага архіва» вядомая даследчыца В.Дадзіёмава паведамляла пра сваю знаходку ў польскіх навуковых кнігасховішчах рукапісу партытуры оперы «Агатка, або Прыезд пана». /Знаны ў XVIII ст. кампазітар Я.Д.Голанд пісаў яе разам з Мацеем Радзівілам да нагоды візіту караля Станіслава Аўгуста-Панятоўскага ў Нясвіж/. І вось урыўкі з оперы пачалі набываць папулярнасць: прагучалі ў праграме фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы», увайшлі ў рэпертуар Гродзенскай гарадской капэлы, папоўнілі фанатэку радыё... Абгаворваецца магчымасць паставіць «Агатку» ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі. А тым часам зацікаўленыя чытачы змогуць азнаёміцца з яе лібрэта, якое будзе надрукавана ў бліжэйшым нумары часопіса «Тэатральная Беларусь». Вершаваны тэкст Мацея Радзівіла пераклаў на беларускую вядомы літаратар і навуковец Уладзімір Мархель. Ён жа напісаў прадмову да публікацыі лібрэта «Агаткі».

Н.К.

ВЫСТАЎКІ

# З ДАЎНІНОЙ НА «ВЫ»

Шэраг выставак запланаваў правесці аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі. Увагу наведвальнікаў прыцягнула першая экспазіцыя, у якой прадстаўлены кнігі кірыліцкага і грамадзянскага друку, выданні XIX—XX стагоддзяў. Адкрывае ж гэтую выстаўку «Евангелие учительское», тое самае, што ў 1569 годзе выпусцілі ў Заблудаве І. Фёдараў і П. Мсціславец. Наколькі унікальны гэты экспанат, сведчыць тое, што па сённяшні дзень ва ўсім свеце захавалася толькі 20 адпаведнікаў «Евангелля».

Н. К.

# НА РАДЗІМЕ АНАТОЛЯ ТЫЧЫНЫ

У сярэдзіне траўня ў Летуве /Шаўляйскі раён, мястэчка Груздзы/ адкрыты Музей-мастацкая галерэя Анатоля Тычыны. У святце бралі ўдзел мясцовыя людзі, прадстаўнікі ўладаў Груздаў і Шаўляй, госці з Рэспублікі Беларусь і сярод іх удава мастака Зінаіда Сямёнаўна Тычына. Свята пачалося імшою ў мясцовым касцёле, працягвалася ўжо непасрэдна ў музеі. Экспазіцыя музея месціцца ў трох пакоях: на сценах — творы мастака, на стэлажах — пісьмы, фотаздымкі і іншыя дакументы. На будынку школы непадалёк ад музея адкрыта мемарыяльная дошка, якая сведчыць, што на гэтым месцы стаяў дом, дзе 11 траўня 1897 года нарадзіўся мастак Анатоль Тычына.

Гаспадары і госці мелі агульную думку, што музей гэты сімвалізуе традыцыйныя прыязныя стасункі Беларусі і Летувы.

ТЭАТР

# І ВЫКАНАЎ ГАЛОЎНУЮ РОЛЮ...

Барысаўскі народны тэатр «Відарыс» прапанаваў сваім заўсёднікам-прыхільнікам прэм'еру спектакля «След ваўкалака» паводле аднайменнага рамана Леаніда Дайнекі. 2 чэрвеня пры гэтай тэатральнай падзеі прысутнічаў, дарэчы, сам раманіст. Праўда, аўтарам інсцэніроўкі, як і сцэнографам, рэжысёрам ды пастаноўшчыкам выступіў кіраўнік тэатра «Відарыс» Уладзімір Буйко. Ён сам выканаў і ролю полацкага князя Усяслава. У спектаклі былі занятыя артысты народнага тэатра А.Цяліпка, Д. і А. Гедыміны, Ю.Шапчыц, Ю.Хоміч і іншыя. Музычнае афармленне — Д.Лявонцева.

# ДРУГАЯ СУСТРЭЧА Ў ТОРУНІ



З 22 па 30 мая ў Торуні /Польшча/ праходзіў міжнародны тэатральны фестываль «Кантакт-93». Мастацкі кіраўнік фестывалю Крысціна Мейснер зрабіла ўсё, каб удзельнікі гэтага святочнага мерапрыемства найбольш творча выявілі свае магчымасці на торуньскіх падмостках. У Торунь прыехалі калектывы з Грузіі, Галандыі, Славакіі, Расіі, Чэхіі, Украіны, Эстоніі, Літвы, Румыніі і самой Польшчы. Беларусь прадстаўляў купалаўскі тэатр. Ягоны мастацкі кіраўнік Валерый Раеўскі пазнаёміў гледачоў і крытыкаў са сваім спектаклем «З нагоды мокрага снегу» паводле Ф.Дастаеўскага. Майстэрства купалаўцаў ацанілі належным чынам. У зале торуньскага тэатра «Бай паморскі» не было ніводнага вольнага месца. Гледачы доўга не адпускалі са сцэны С.Краўчанку, А.Іваннікаву, А.Мілаванава, А.Гарцуева, М.Громаву. Трэба сказаць, што гэта была другая сустрэча купалаўскага тэатра з торуньскай сцэнай: у 1991 годзе Валерый Раеўскі прадстаўляў на ёй свой спектакль «Страсці па Аўдзею» У.Бутрамеева.

Л.Д.-М.

*На здымку: Сяргей Краўчанка /Парадаксаліст/ і Ігар Дзянісаў /Афіцэр/ у спектаклі «З нагоды мокрага снегу» паводле Ф.Дастаеўскага. Ролю Афіцэра ў спектаклі на торуньскім фестывалі выконваў Аляксандр Гарцуеў.*

*Фота Уладзіміра ШАХЛЕВІЧА*

ЛІТКУР'ЕР

# АДНАДУМЦЫ

У Літаратурным музеі Я.Купалы адбылася сустрэча родных М.Гарэцкага з калектывам музея, студэнтамі, вучнямі. Навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я.Купалы АН Беларусі Т.Голуб пазнаёміла прысутных з раней невядомымі фактамі з біяграфіі пісьменніка, якія сведчаць, што Я.Купала і М.Гарэцкі разам вучыліся на Смаленскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута. Затым у 1919 годзе яны абодва апынуліся ў Мінску. Ёсць меркаванне, што яны пэўны час жылі на адной кватэры. Віцэ-прэзідэнт АН Беларусі, акадэмік Р.Гарэцкі ў сваім выступленні падкрэсліў, што Я.Купала і М.Гарэцкі — аднадумцы, якія па праву лічацца ідэолагамі беларускага адраджэння.

Пляменніца Я.Купалы Я.Раманоўская нагадала прысутным аб неаднаразовых сваіх сустрэчах у Пецярбурзе з жонкай М.Гарэцкага, пісьменніцай М.Чарняўскай, а пасля яе смерці з дачкой пісьменніка Галінай Максімаўнай.

Л.ДАВІДОЎСКАЯ,
старшы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея імя Я.Купалы

АНОНС

# І РАЗ'ЯЗДЖАЦЦА ТРЭБА... РАЗАМ

Альтэрнатыўны тэатр з 14 па 20 чэрвеня прадстаўляе вялікую праграму на закрыццё сезона, — гэтак званы «Тэатральны раз'езд», падчас якога да кожнага спектакля тэатра будзе прымеркавана якаясь адмысловая пазасцэнічная прапанова. Прынамсі, 14 чэрвеня паэтычнай вечарыне наканавана паяднацца з вечарынаю старасвецкага раманса — камертонам зробіцца паэтычны спектакль «Agnus Dei» /«Гондла»/ М.Гумілёва. 15 і 16 чэрвеня «Пагулянне» С.Мрожака суправодзіць «Аркестр» Ж.Ануя з удзелам «Акампаніятара» М.Мітуа. 17 чэрвеня мае адбыцца бенефісны спектакль адной з вядучых актрыс Альтэрнатыўнага, рэжысёра спектакля «Agnus Dei» Тацяны Мірашнічэнкі — «Кароль памірае» Э.Іянескі. 18 чэрвеня, пасля спектакля «Камедыя» паводле К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча, акцёры Альтэрнатыўнага мяркуюць спаткацца са сваімі сябрамі, гледачамі і крытыкамі, адказаць на магчымыя пытанні ды канстатаваць агульныя праблемы. 19 чэрвеня пасля апошняе песенькі Мэкі-Нажа /«Трохграшовая опера» Б.Брэхта/ для акцёраў ды гледачоў пастараецца джазавы аркестр «Рэнесанс». На 20 чэрвеня прыпадае спатканне шматлікіх сяброў і прыхільнікаў тэатра, а таксама калег на вялікім капусніку з нагоды закрыцця тэатральнага сезона — пад галасы «Камераты».

Генеральны спонсар праграмы «Тэатральны раз'езд» — беларуская дзелавая газета «Біржы ды банкі».

Ж.Л.

*На здымку: Барыс Васільеў /Пічэм/ і Артур Шуляк /Філч/ у «Трохграшовай оперы» Б.Брэхта.*

*Фота Алены АДАМЧЫК*

ЛіМ - часапіс

Так я стаў настаўнікам.

**— А што вы выкладалі?**

— Я быў завучам. Працаваў у школе да самай вайны.

**— А як змянілася ваша становішча з прыходам немцаў?**

— Я працягваў заняткі ў школе. Праз некаторы час у школу завіталі партызаны... Тады я толькі прыйшоў дадому пасля заняткаў. Чую: на сцежцы конскі тупат. Я — на вуліцу! На конях — узброеныя людзі. Але не ва ўніформе. Значыць, ні немцы, ні паліцыя... З паўсотні мо... Двое злезлі з коней і да мяне. Я меў на кашулі «Пагоню», хуценька адкруціў яе і выкінуў у траву, каб не бачылі... Падыходзяць...

— Здравствуй!

— Здравствуйте, — кажу.

— Чем занимаешься?

— Учитель.

— Значит, учишь детей любить Гитлера!

— Не, вучу дзяцей чытаць, пісаць, лічыць...

— А почему в твоей школе висит портрет Гитлера?

— А я яго там не вешаў. Немцы прывезлі і павесілі.

— Так ты сбрось его!

Кажу: калі я скіну, немцы заб'юць мяне. А мне паміраць за Гітлера зусім не хочацца...

На гэтым і разышліся.

**— Хутка пасля гэтай сустрэчы вы пакінулі настаўніцкую працу...**

— Так. У Беларусі ствaралася беларуская адміністрацыя і мяне накіравалі старшынёй павета ў Клецк.

**— Як вам цяпер здаецца: ці патрэбна была беларуская адміністрацыя ва ўмовах ваеннага часу?**

— Вельмі патрэбная! Жыццё змушала гэта рабіць. Інакш немцы нас зусім задушылі б. Так, як зрабілі яны гэта з маім бацькам. Яго расстралялі ў Плешчаніцах... Ёсць дзве версіі яго гібелі. Немцы абвінавацілі яго ў тым, што ён памагаў габрэям — хрысціў іх і гэтым самым ратаваў ад гета... Пра другую версію мне напісаў Юры Туронак з Польшчы. Імя бацькі згадваецца ў некаторых нямецкіх дакументах. Нібыта яго расстралялі як сімпатыка Саветаў... Лёс майго бацькі паўтарылі тысячы свядомых беларусаў. Іх знішчылі немцы...

**— Айцец Святаслаў, а ці ведалі вы, калі пагадзіліся быць старшынёй павета, што немцы расстралялі вашага бацьку?**

— Не, не ведаў. Пра яго смерць я даведаўся толькі праз год...

**— А немцы гэта ведалі?**

— Таксама не. На пасаду мяне прадставіў Юры Сабалеўскі.

**— Як вам жылося ў Клецку?**

— Шмат пержыў усяго... Пазней гэта адбілася на маім здароўі. Бо сітуацыя была вельмі складаная. Усе навакольныя вёскі былі пад кантролем партызан. Але ў Клецку яны не паказваліся. Тут была самаахова — 30 вінтовак. Партызаны спрабавалі пару разоў нападаць на Клецк, але ім далі так, што яны ўцякалі без задніх ног...

Пазней, калі паўстала Беларуская краёвая абарона, стала лягчэй. Немцы дазволілі беларусам мець толькі адзін батальён войска на павет. Калі ў павеце два батальёны, то яны павінны мець сваё асобнае камандаванне. Яны баяліся, што беларусы могуць даць ім пад задніцу... Бо што немцы рабілі на нашай зямлі? Рабавалі Беларусь! Беларуская адміністрацыя не мела ніякіх рэальных правоў...

**— А чым жа вы займаліся...**

— У маіх функцыях быў догляд дарог, паліцыя, школьніцтва, суд, падтрыманне парадку. Па вёсках дзейнічалі партызаны. Трэба было бараніцца ад іх... Мы казалі немцам: вы ваюйце з бальшавікамі, а парадак будзем трымаць мы, беларусы.

**— А як мясцовае насельніцтва ўспрымала беларускую паліцыю, самаахову, адміністрацыю?**

— Вельмі добра. Там жа былі іх сыны, мужы, браты. А партызаны, калі даведваліся, што нехта з сям'і служыць у паліцыі ці краёвай абароне, палілі іх хаты, забівалі родных...

**— Але ж і ў партызанах былі іх сыны, мужы, браты... А іх забівалі ў паліцыі...**

— Так. Была вайна. А ўсякая вайна ёсць трагедыя. І ў гэтых варунках беларусы паспрабавалі, каб выгнаць бальшавікоў і, з другога боку, не падпасці пад немца, а самім быць гаспадарамі сваёй зямлі.

**— Айцец Святаслаў, будучы старшынёй павета, вы ўсё-ткі служылі Германіі ці Беларусі?**

— Я служыў свайму народу! У Клецку я прабыў да самага адступлення. Прыбліжаўся фронт... Той, хто працаваў у адміністрацыі, не мог уцякаць тады, калі захацеў. Бальшавікі ўжо занялі Слуцк, а я сядзеў яшчэ ў Клецку... Сабраўся ўцякаць, запрог коней, а немцы кажуць: не рабі панікі... Запрэжаны конь стаяў ля хаты, каб у любую хвіліну быць гатовым да ад'езду...

**— А застацца вы не рызыкнулі?**

— Што вы! Яшчэ раз сустрэцца з бальшавікамі я не хацеў. Сабраўся цэлы абоз уцекачоў... Мы дабраліся да Варшавы. А з Варшавы адыходзіў эшалон з праваслаўным духавенствам. Я прыстаў да іх і з'ехаў у Чэхію. Адтуль у Аўстрыю... Немцы паслалі мяне рабіць у шахты... Калі падышоў фронт, нас распусцілі, і я падаўся да Берліна. А там ужо хадзілі чуткі, што ў Берлін прыйдуць рускія. Мы з жонкай пагаварылі: чаго мы так далёка ўцякалі, каб зноў трапіць да іх у рукі? Рашылі ўцякаць далей. Але куды? У кватэрцы на сцяне вісела карта. Ля самай швейцарскай граніцы адшукалі горад Зээфельд... І рашылі ехаць туды. У метро па дарозе на вакзал выпадкова сустрэлі маю сястру ... Яна была сакратаркай у канцылярыі Беларускай Цэнтральнай Рады. Яна расказала нам, што таксама ўцякае, разам з кіраўнікамі БЦР. На вакзале павінен быць Бацька — так яны называлі прэзідэнта Радаслава Астроўскага. Пад'едзь, пагавары з ім, можа, ён дазволіць і цябе ўзяць. Я так і зрабіў. З Астроўскім мы былі знаёмы яшчэ з Вільні, і ён прыхільна паставіўся да маёй просьбы. Нас накіравалі ў таварны вагон. Ён быў ужо па завязку загружаны чамаданамі і людзьмі. І толькі мы неяк ушыліся, падыходзіць маёр Васіленя. У нямецкай форме, але размаўляў па-беларуску:

— Хто ты такі, — пытае.

— Коўш, — кажу.

А ён у крык:

— Не ведаю ніякага Каўша. У цягніку ўрад беларускі едзе. Табе тут месца няма.

Я не стрымаўся і кажу:

— Ты, калі надзеў мундзір, — ідзі ваюй, а не махай кулакамі!

Ён у злосць, ужо гатоў загрудкі брацца... Але тут з сярэдзіны вагона нямецкі афіцэр, які апекаваўся БЦР, на цудоўнай расейскай мове звярнуўся да Васілені:

— Господа! Оставьте человека в покое. Пускай едет. Кому тесно, пусть выбросит свои чемоданы!

Так мы выехалі з Берліна. Пасля яшчэ некалькі разоў пераязджалі з горада ў горад, каб не трапіць у савецкую зону акупацыі. Нарэшце нас занялі ангельцы. Нацярпеліся гора...

У першы дзень капітуляцыі мы ўпершыню за доўгія месяцы вандровак наталілі пачуццё голаду. Калі немцы даведаліся, што заўтра прыйдуць ангельцы, яны раскрылі ўсе склады і параздавалі харчы насельніцтву. Дасталося і нам. Мы трапілі ў лагер для перамешчаных асоб. Свае цягнуліся да сваіх. Калі сабралася досыць беларусаў, мы папрасілі ангельцаў зрабіць беларускі лагер... Мяне выбралі камендантам гэтага лагера. У Ватэнштаце мы арганізавалі беларускае жыццё, дапамагалі людзям афармляць дакументы на эміграцыю... Я таксама прайшоў усе чысткі — і па здароўю, і палітычна. І ў 1949 годзе атрымаў візу ў Амерыку... Прыехаў у суботу, а ў панядзелак ужо пайшоў на працу на хімічную фабрыку, дзе выраблялі медыцынскія прэпараты. Пэўны час працаваў фізічна...

**— А калі вы зноў вярнуліся да святарства?**

— О, гэта цэлая гісторыя. У Нью-Йорку група беларусаў вырашыла пабудаваць царкву. Яны прыехалі да мяне і сталі прасіць, каб я пасвяціўся. Я ж быў дыяканам. Я пасвяціўся. Кожную суботу і нядзелю ездзіў у Нью-Йорк і служыў набажэнствы. Спачатку ў нанятай зале, пасля ў сваёй царкве, якую мы пабудавалі супольна. Там я працаваў восем гадоў. Калі памёр айцец Мікалай Лапіцкі, я заняў яго становішча ў Саўт-Рывеafterры. І да хваробы працаваў тут. Каб не пакінуць прастол сіратою, пачаў шукаць святара на замену. Я вывучыў і прадставіў архіепіскапу Іякавасу Мечыслава Брынкевіча. Яго рукапалажылі і цяпер ён служыць у царкве святой Ефрасінні Полацкай.

**— Айцец Святаслаў, на якой мове праходзяць набажэнствы ў вашай царкве?**

— Евангелле і Апостал мы чытаем па-беларуску. Але асабіста я супраць, каб служыць толькі па-беларуску. Бо гэтым мы адпіхнём ад царквы многіх людзей. Для царкоўнай службы вельмі падыходзіць царкоўнаславянская мова, а не руская. Пропаведзь, па-мойму, таксама трэба казаць па-беларуску.

**— Айцец Святаслаў, у якім сане вы выйшлі ў адстаўку?**

— Я пратапрэсвітэр. Цяпер я маю хатнюю царкву і магу служыць літургію. Зімой, калі выпадае шмат снегу і цяжка даехаць у нашу царкву, я іду ў сваю. Памалюся, пасля паснедаю... Так і жыву цяпер. Я шчаслівы па-свойму. Калі б мая жонка жыла, я быў бы самы шчаслівы чалавек на свеце... Але, відаць, святы Абрам выбірае толькі лепшых.

**— Усё сваё жыццё вы, акрамя грамадскай і святарскай дзейнасці, актыўна займаліся літаратурнай творчасцю...**

— Так, я пісаў... Бо атрымліваў ад гэтага маральнае задавальненне. Я выдаў кнігу балад і прозы — «Русалчына баляда», а таксама кнігу гісторыі лагера Ватэнштат... Я пішу не на сучаснай літаратурнай мове, а на той мове, на якой гаварыў і гаворыць мой народ... Мае балады — гэта проза ў вершах. Я не люблю дзеяслоўную рыфму: гэта дзяшоўка... Тое, што я пісаў, было не для друку. Пісаў для сябе. Альбо тады, калі лічыў, што трэба пасвятліць некаторыя старонкі айчыннай гісторыі. Так, напрыклад, узнікла аповесць «На дарогах вайны», дзе я на ўласным лёсе паказваю падзеі, што адбываліся ў Беларусі ў першай палове 40-х гадоў...

**— Айцец Святаслаў, ці лічыце вы сябе пісьменнікам?**

— Я не думаю, што я маю талент пісьменніка. Але публіцыстам я сябе лічу. Тут, у эміграцыі, я рэдагаваў пэўны час часопіс «Царкоўны сьветач», дзе друкаваў свае артыкулы. Цяпер я выказваю свой погляд на падзеі ў царкоўным і грамадскім жыцці ў сваім часопісе «Беларуская зарніца».

**— А ці ўдаецца вам сачыць за літаратурай, што выдаецца тут, у замежжы?**

— Так, я ўсё чытаю. Нашым паэтам не дараўнацца з Коласам ці Купалам, але добра, што яны ёсць, хоць я не захапляюся іх творчасцю. Напіша чалавек кароценькі вершык і думае, што выказаў вялікую думку ці стварыў шэдэўр. Але ў форме губляецца веліч. Прозай можна сказаць больш...

**— Так атрымлівалася, што вы амаль заўсёды былі ўбаку ад палітыкі...**

— Але я заўсёды верыў і веру ў незалежнасць Беларусі. Я задаволены, што тут, у Амерыцы, ёсць беларускае жыццё, нават калі я не прымаю ў ім непасрэднага ўдзелу. Я таксама вельмі задаволены, што цяпер на Беларусі вольная незалежная дзяржава. Я жадаю ўсім яе насельнікам — беларусам і небеларусам — шчасця. А ці будуць яны шчаслівыя, — гэта залежыць ад іх.

**Гутарыў Леанід ПРАНЧАК**

---

*МАНАЛОГ РОЗДУМНЫ*

## Кастусь ШЫДЛОЎСКІ, супрацоўнік Браслаўскага музея

— Да беларушчыны я прыйшоў ад захаплення дойлідствам. Аб'ездзіў расійскае «Залатое кальцо», затым зацікавіўся мясцовай даўнінай. Падняў адпаведную літаратуру /Шчыкаціхін, Озераў, Чантурыя/, пасля падарожнічаў па гістарычных мясцінах Беларусі — Ліда, Гародня, Ваўкавыск, Мір, Нясвіж, Навагрудак. У БДУ /а вучыўся я на геафаку/ маё нацыянальнае пачуццё яшчэ не акрэслілася. Запомніліся вайсковыя зборы ў Слоніме, дзе сабралася група людзей свядомых, пераконаных. Чатыры месяцы ў гэтым плане мне далі болей, чым усё папярэдняе жыццё. Адкрыліся вочы, ужо гатовыя расплюшчыцца. Ці ўваходжу ў ТБМ? Не, я нават не ведаю, хто ў нас узначальвае яго аддзяленне. Калі мяне разам з іншымі, хто размаўляе «на мове», запрасіў да сябе сакратар райкама партыі і прапанаваў стварыць мясцовую суполку, я адмовіўся. Тут я згодзен з А.Карэнькам: мы жывём на сваёй зямлі...

Пры размеркаванні я выбраў сваю радзіму — Браслаў — і прыехаў сюды гідам у Бюро падарожжаў. Мне пашчасціла: у горадзе якраз ствараўся гісторыка-краязнаўчы музей, я пайшоў туды навуковым супрацоўнікам. Жменька экспанатаў і максімалісцкія планы — вось што мы мелі напачатку. Была вялікая праца, была поўная аддача справе. Праз нейкія два гады экспанатаў стала пяць тысяч. Ажно не верыцца, бо цяпер ужо няма такіх паступленняў.

У чым асаблівасці нашага музейнага вопыту? Райкам партыі, як ні дзіўна, не звяртаў на нас ніякай увагі: ат, хай корпаюцца. І хоць музеі лічыліся ідэалагічнымі ўстановамі, але работнікамі ідэалагічнага фронту мы так па сутнасці і не сталі. У экспазіцыі, калі вы звярнулі ўвагу, адсутнічае зала «дасягненняў савецкага перыяду». Тагачасны першы сакратар як чалавек валявы /усе яны былі валявымі, не любілі, калі ім пярэчаць/, нам нават спрыяў. Па яго загадзе перанеслі слуп, які, на нашу думку, псаваў фасад будынка. Так і ў іншым: проста не было праблем. Савет ветэранаў не ўмешваўся, ніхто не патрабаваў макета «Аўроры» і дыярамы Зімняга... Так што цэнзарам было наша ўласнае бачанне свету. Пра поўную незалежнасць, вядома, казаць не даводзіцца, абсалютна вольныя прыйдуць за намі, у іх душах не будзе сядзець гэтага звыклага «ніз-з-зя». Хаця тое-сёе ў экспазіцыі я памянуў бы ўжо сёння, падыходы мяняюцца на вачах.

Асаблівасцю з'яўляецца і тое, што за стварэнне музея браліся не спецыялісты-музейнікі, а людзі з іншых галін дзейнасці. Ёсць пэўныя шаблоны ў стварэнні гісторыка-краязнаўчых музеяў: гэта падача храналагічных падзей па пэўнай схеме. Мы за схемы асабліва не трымаліся. Музей можа існаваць у вольных формах, з іншымі падыходамі і крытэрыямі.

Будучыня нашага музея будзе шмат у чым залежаць ад развіцця Браслава. Хочаш — не хочаш, а ён павінен стаць турыстычным цэнтрам Віцебшчыны. Чаму дасюль не стаў пры такім унікальным прыродным атачэнні? Існавалі іншыя прыярытэты. Пабудавалі льнозавод, торфабрыкетны, будаўніцтва мікраараёнаў распачалі — адным словам, перад намі інфраструктура звычайнага райцэнтра. Зараз дзесяцітысячны гарадок пачынае развівацца па сваіх законах, ён распаўзаецца як павук, і гэта, мабыць, незваротны працэс. А быў жа некалі Браслаў маленечкім, брукаваным, дагледжаным, утульным курортным мястэчкам, сюды прыязджалі на адпачынак з Вільні і Варшавы. Нават у тыя часы горад уваходзіў ва ўсе турыстычныя даведнікі.



*Супрацоўнікі музея ля свайго ганка*

Тое, што мы робім па вяртанні гістарычнай памяці, па адраджэнні, усё ж мае водгук, адкрытага супраціўлення з боку ўлад я таксама не сустракаў. «Адраджэнне» ўвогуле збітае слова, яно падразумявае адраджэнне **нечага**. У нашым выпадку, як добра пісаў у «ЛіМе» Ю.Залоска, гаворку лепш весці пра **стварэнне**. Пад адраджэнне ў нас падводзіцца што заўгодна — і аднаўленне гістарычнай праўды, і краязнаўства, — любая праява культурнай дзейнасці, звязаная з нацыянальнай афарбоўкай. Пры саветах усе праявы беларускасці ў нашым краі былі зліквідаваны /як, зрэшты, і паўсюль/.

Я і зараз не магу глядзець перадачы Віцебскага тэлебачання — яны цалкам расійскай накіраванасці. Заўважыў, што людзі ўсё часцей адмаўляюцца ад так званых цэнтральных газет і звяртаюцца да сваіх. У нас найбольш папулярная «Народная газета». Станоўчую ролю ў палітычным сэнсе адыграла і «Браслаўская звязда». На яе старонках можна выказацца па ўсіх амаль пытаннях — нават калі твае погляды не супадаюць з афіцыйнымі. Далёка не кожная раёнка можа гэтым пахваліцца.

**Запісала Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

**P.S. З гэтай паездкі ў Браслаў, з сустрэч, размоў і ўсяго пабачанага я зрабіла некалькі вывадаў:**

**што «глыбінка» бывае розная — дзесь жыццё як стаячая вада, а дзесь цячэ і бруіцца, пераадольваючы завалы, і гэта залежыць выключна ад наяўнасці /або адсутнасці/ асоб, людзей свядомых, дзейсных, адданых сваёй малой радзіме;**

**што музей — гэта неабавязкова змярцвелыя залы з экспанатамі на сценах, а ў ідэале — месца жывой народнай творчасці і чалавечых кантактаў;**

**што ў галіне прыкладнога мастацтва мяжа паміж рамяством і ўласна мастацтвам досыць няпэўная, і таму члены Саюза мастакоў зусім не комплексуюць ад блізкага суседства з пенсіянерамі і пяцікласнікамі;**

**што аддзел культуры выканкама можа быць карысны ўжо тым, што не замінае добрым справам.**

**А палюбавацца на славутыя Браслаўскія азёры, на жаль, я так і не паспела...**

**Г.К.**

*Фота Я.КАЗЮЛІ*

***Аднаўленне арганізаванай дзейнасці камуністаў на Беларусі прайшло амаль непрыкметна для шырокіх колаў грамадскасці, не было ў дастатковай ступені асветлена сродкамі масавай інфармацыі, прааналізавана палітолагамі, гісторыкамі, юрыстамі. Недаацэнка таго, што здарылася, пагражае сумнымі вынікамі і будзе мець непрадказальныя наступствы. Партыя, якая аднаўляецца, разгортвае актыўную прапагандысцкую кампанію, імкнецца аднавіць сваю структуру ў маштабе, які найбольш поўна адпавядае дапутчаваму.***

# «МЫ ЯШЧЭ ВЕРНЕМСЯ ДА ТЭРОРУ...»

## ЦІ ЗМЯНІЛАСЯ ПАЛІТЫЧНАЯ ПРАКТЫКА КАМУНІСТАЎ

Паўстае пытанне: як камуністы могуць змяніць цяперашнюю палітычную сітуацыю ў рэспубліцы? Але перш чым спрабаваць адказаць на яго, трэба хоць бы схематычна абмаляваць найбольш характэрныя грані гэтага палітычнага руху, яго стратэгію і тактыку ў мінулым і выявіць, што з гэтага багажа партыя ўзяла з сабой у сённяшні дзень.

Трэба заўсёды помніць, што пры ўсёй знешняй прывабнасці «камуніі» для бяднейшых і палітычна неадукаваных пластоў грамадства, камуністы нідзе і ніколі не прыходзілі да ўлады мірным, дэмакратычным шляхам. Так было і ў 1917-м, калі ажно да кастрычніка на палітычнай арэне «баль правілі» іншыя партыі, і толькі ва ўмовах крайняй аморфнасці ўлады бальшавікам удалося ажыццявіць узброены пераварот. Карыстаючыся двума прыёмамі — загадзя неажыццявімымі абяцаннямі тыпу «Мір — народам!», «Зямля — сялянам», «Фабрыкі і заводы — рабочым», і разам з тым расстрэламі, канцлагерамі для сваіх палітычных апанентаў, нязгодных і проста «падазроных» з іх пункту гледжання, камуністы дамагліся манапалізацыі свайго ўплыву на грамадскую свядомасць, а лозунг «рабуй нарабаванае» забяспечыў прыток у партыю вялікай колькасці новых прыхільнікаў, якія імкнуліся адхапіць кавалак больш тлусты.

Экспрапрыіраваўшы прыватную ўласнасць і аб'яднаўшы яе пад кантролем партыйна-дзяржаўнага апарату, кампартыя давяла ўзровень канцэнтрацыі і форму прыналежнасці новаму ўласніку — партыйна-дзяржаўнай наменклатуры — да ідэалу, што дало магчымасць гэтаму новаму ўласніку цалкам і стала бескантрольна распараджацца і карыстацца плёнам працы ўсяго народа, паставіць простых грамадзян у зусім бяспраўнае становішча. Усё гэта вельмі трапна ахарактарызаваў у адной са сваіх прац амерыканскі гісторык, пісьменнік і культуролаг Джон Дос Пасас: «Сацыялізм — гэта новая сістэма эксплуатацыі чалавека чалавекам, прычым яшчэ больш усеабдымная, якая не пакідае ніякіх лазеек, пры дапамозе якіх індывід можа схавацца і весці свабоднае і дастойнае існаванне».

Тактычныя і вымушаныя адступленні тыпу нэпа, прыватнага землекарыстання і г. д. былі неўласцівыя эканамічнай дактрыне камунізму. Пацвярджэннем гэтага з'яўляюцца словы Леніна: «Найвялікшая памылка думаць, што нэп паклаў канец тэрору. Мы яшчэ вернемся да тэрору і тэрору эканамічнага». Такім чынам, кампартыя за непрацяглы час знішчыла не толькі сваіх палітычных праціўнікаў, але і сам натуральны «вечны рухавік» эканамічнага прагрэсу — прыватную ініцыятыву, эканамічную незалежнасць індывіда ад дзяржавы і матэрыяльную зацікаўленасць у выніках сваёй працы. Камуністы папоўнілі адсутнасць гэтага «вечнага рухавіка» масавым ужываннем рабскай працы ў калгасах і лагерах і камандна-адміністратыўнымі метадамі прымусу да працы пакінутай «на свабодзе» часткі насельніцтва.

Партыйна-дзяржаўнай эліце патрэбны былі «масы» пакорлівыя і здольныя пастаянна павялічваць моц ствараемай імперыі. Вельмі хутка сама эліта ператварылася ў кіруючую касту, якая мае магчымасць карыстацца матэрыяльнымі каштоўнасцямі, што ствараў народ, у непараўнана больш буйных маштабах, чым радавыя «будаўнікі камунізму», праз сістэму прывілей і льгот. Шыкоўныя кватэры ў спецдамах, асобныя медустановы і школы, магазіны і санаторыі, персанальныя аўтамабілі і дачы сталі неад'емным атрыбутам нашых партыйных і дзяржаўных правадыроў. Астатняя частка партыі робіцца паслухмяным інструментам у руках гэтай касты, прычым кожны член партыі ў адпаведнасці са сваім становішчам у партыйнай іерархіі меў магчымасць атрымліваць пэўныя афіцыйныя і неафіцыйныя паблажкі.

Вядома, і для радавога грамадзяніна патрабаваліся нейкія доказы «перавагі сацыялістычнага ладу над капіталістычным». Таму бясплатная адукацыя і медабслугоўванне, пенсійнае забеспячэнне па старасці, скрытая форма беспрацоўя і мінімальныя жыллёвыя ўмовы для часткі насельніцтва неслі ў сабе абавязковую ідэалагічную нагрузку, аб'яўляючыся партыяй «дасягненнямі сацыялізму» і «клопатам партыі пра чалавека». Але без ідэалагічнага камуфляжу ўсё гэта з'яўлялася толькі самым неабходным клопатам гаспадара пра рабочую скаціну.

У 20-ых гадах эпідэмія таталітарызму, праўда, у крыху змененай форме, перакінулася ў іншыя краіны. У Італіі Мусаліні, які, дарэчы, заўсёды падкрэсліваў сваю павагу да Леніна, ствараючы сваю разнавіднасць таталітарызму — фашызм, па словах вядомага рускага публіцыста Мікалая Устралава, «сыходзіцца з бальшавізмам у імклівым адмаўленні свабоды як самамэты і ў сцвярджэнні першынства дзяржавы над бунтуючым індывідам», «пераймае бальшавізм у арганізацыйных метадах, у будаўніцтве партыйнай дыктатуры». Але найбольш наглядна прасочваюцца рысы, агульныя для ўсіх або амаль для ўсіх таталітарных сістэм, у параўнанні камунізму з нацыянал-сацыялізмам. Вядома, Гітлер моцна відазмяніў і ўдасканаліў ідэі таталітарызму, памяняўшы полюсы накіраванасці сваёй тэорыі з класавых на нацыянальныя. Але сама сутнасць таталітарызму — стварэнне жорсткага партыйна-дзяржаўнага кангламерату і поўнае падпарадкаванне яму асобнага чалавека, знішчэнне ўсіх грамадзянскіх правоў і свабод, усіх палітычных партый, акрамя правячай, пазбаўленне велізарнай колькасці людзей прыватнай уласнасці, масавыя забойствы і ўжыванне рабскай працы — была аднолькавая як у камунізме, так і ў нацызме. Адным словам, камунізм і нацызм аказаліся досыць падобнымі палітычнымі монстрамі. Трэба адзначыць, што камуністы і нацысты даволі паспяхова пераймалі вопыт адзін у аднаго. Так, камуністычным кіраўніцтвам Саюза ў 40-я гады была перанята ад нацыстаў ксенафобія, якая вылілася ў нас у праследаванне яўрэяў, немцаў, крымскіх татар і іншых народаў, у імкненне да асіміляцыі рускімі суседніх народаў і іншыя мерапрыемствы партыйнага кіраўніцтва, якія падаваліся як «вырашэнне нацыянальнага пытання».

Вядома, нейкія рысы партыйна-дзяржаўнай сістэмы ў нас змяняліся з часам. Пасля смерці «лепшага вучня» Леніна І. Сталіна ўладу ў краіне ўдалося перахапіць палітыкам-«вегетарыянцам». Часта вымушаныя спробы новага кіраўніцтва, не адмаўляючыся ўвогуле ад сваіх бязглуздых ідэй, нармалізаваць адносіны са свабодным светам, а таксама хоць бы знешне ўвысакародзіць «рэальны сацыялізм» былі праявай разумення або хутчэй прадчування правадыроў, што ў выніку максімальнага перанапружання і знясілення грамадства набліжаецца «старэнне» імперыі. Хрушчоў усё-такі здолеў спыніць крывавую вакханалію і стварыць хоць бы падабенства нармальнага жыцця для простых грамадзян — і ў гэтым яго найбольшая заслуга. Але эксперыменты Хрушчова — нясмелыя, непаслядоўныя — усё-такі аказаліся небяспечнымі для партыйнай алігархіі, якая ў выніку палацавага перавароту пасадзіла ў крэсла генсека кантралюемага і паслухмянага. З гэтага часу пачынае свой шлях прынцып «калектыўнага кіраўніцтва», які, вядома ж, не змог спыніць набліжэнне крызісу камуністычнай сістэмы. Актыўна лячыць смяротэльную хваробу асмелілася толькі новае пакаленне партлідэраў, пачынаючы з першай паловы 80-х гадоў. Але калі Андропаў усклаў надзею на рэанімацыю некаторых рысаў «чыстага» сацыялізму сталінскай эпохі, то Гарбачоў, пераканаўшыся ў бесперспектыўнасці лячэння заімшэлымі заклікамі і кампаніямі, першы рашыўся на рызыкоўны эксперымент выратавання камунізму дэмакратыяй і рыначнай эканомікай. Вось тут і праявілася адна досыць прыкметная асаблівасць камуністычнага рэжыму — пры нават мінімальным дапушчэнні адначасовага з імі існавання дэмакратыі і нармальных эканамічных адносін, ён, рэжым, набывае тэндэнцыю да амаль імгненнага распаду. Пацвярджэннем гэтага служыць разгортванне падзей у краінах Усходняй Еўропы і Савецкага Саюза. У свой час гэтую асаблівасць улічылі кітайскія кіраўнікі, дапусціўшы лібералізацыю ў эканоміцы і захаваўшы за сабой поўнае і абсалютнае панаванне ў палітыцы, тым самым замарудзіўшы спаўзанне сваёй сістэмы да краху і, відаць /гэта пакажа будучыня/, змякчыўшы пераход ад таталітарызму да дэмакратыі. У любым выпадку «кітайскі варыянт» у нас быў бы нежыццяздольны ў выніку велізарнага адрознення суб'ектыўных і аб'ектыўных умоў.

Але час, у рэшце рэшт, абавязкова расстаўляе ўсё па сваіх месцах. Пагарджанне вопытам папярэдняга развіцця чалавечага грамадства, адыход ад рэалізму ў схаластыку, злачынна жорсткія эксперыменты над цэлымі народамі і іншыя спецыфічныя рысы, характэрныя для камунізму, падвялі гэты палітычны рух да заканамернага фінішу.

Пра перспектывы камунізму ў сучасных умовах дакладна выказаўся французскі эканаміст і палітолаг Гі Сорман: «Лібералізму /г. зн. асновам дэмакратыі, выпрацаваным развітымі заходнімі краінамі/ няма дабраякаснай альтэрнатывы, якую змаглі б прапанаваць людзі са здаровым розумам. Вядома, зусім магчыма ўявіць зварот да камуністычнага таталітарызму, але гэта стала б няшчасцем для народаў. Трэба зразумець, што як ідэалогія камунізм памёр, а як эканамічная мадэль — біялагічна змарнеў. Камунізм можа прадаўжаць існаваць як нейкае таварыства, як кланавая свядомасць, як спосаб абароны матэрыяльных інтарэсаў».

Але гэта зусім не азначае, што настаў час поўнага трыумфу свабоды і дэмакратыі над таталітарызмам. Тым больш, не прыйшоў яшчэ такі час на беларускую зямлю. Цяжкая спадчына, пакінутая нам сямідзесяцічатырохгадовым панаваннем адной з самых бесчалавечных форм таталітарызму, не знікне ў адно імгненне. Біблейскаму Маісею сорак гадоў спатрэбілася вадзіць свой народ па сінайскай пустыні, каб знішчыць у яго свядомасці наступствы егіпецкага рабства. Колькі ж гадоў спатрэбіцца нам «выціскаць па кроплі з сябе раба», каб, нарэшце, стаць упоравень з квітнеючымі еўрапейскімі народамі?

У кантэксце гэтай праблемы немалаважнае значэнне мае ацэнка ўплыву і накіраванасці дзейнасці камуністаў сёння. Пагадзіцеся, што да партыі з такім «слаўным» мінулым заканамерны пэўны недавер. Гіпатэтычна перад камуністамі ёсць два шляхі: першы — праз крытычнае асэнсаванне сваёй папярэдняй дзейнасці і шчыры разрыў са сваім таталітарным мінулым, вяртанне да сацыял-дэмакратычных пачаткаў у сваёй тэорыі і практыцы, збліжэнне з тымі палітычнымі і грамадскімі сіламі, якія выступаюць за незалежную, эканамічна самастойную і дэмакратычную Беларусь: другі — вымушана прызнаючы толькі «некаторыя памылкі» і ўсяляк апраўдваючы іх, у цэлым і агульным сцвярджаючы правільнасць пройдзенага шляху і ўзносячы зноў да нябёсаў уяўныя дасягненні, праз духоўнае збліжэнне і альянс з найбольш рэакцыйнымі, палітычнымі арганізацыямі і групоўкамі, якія спавядаюць вялікадзяржаўны шавінізм і прыкрываюцца шчытом ілжэ-патрыятызму, зноў ісці да стагнацыі ў сацыяльным і культурным развіцці нашага грамадства, да эканомікі, разлічанай на ажыццяўленне вымарачных «рашэнняў» кучкі звар'яцелых правадыроў, зноў ісці да дыктатуры, рэпрэсій, іншымі словамі — зноў да таталітарызму.

На маю думку, сённяшнія камуністычныя лідэры спавядаюць менавіта гэты шлях.

Радавым камуністам пад цяжарам абнародаваных у апошнія гады фактаў міжволі даводзіцца прызнаваць, што гісторыя камунізму — гэта гісторыя сур'ёзных пралікаў, трагічных памылак, перараджэння часткі кампартыі, здрады інтарэсам народа. Але роля самой партыі ў раскрыцці і прызнанні сваіх злачынстваў — мізэрная. Толькі пад націскам неабвержных доказаў, кожны раз з пастаяннымі агаворкамі, крайне неахвотна яна здае свае ідэалагічныя бастыёны, пабудаваныя на лжывай прапагандзе і міфах.

Увесь разлік цяперашніх камуністычных артадоксаў будуецца на тым, што ў народзе з яго свядомасцю, знявечанай і высушанай шматгадовым ціскам таталітарнай прапаганды, у народзе, які не прывык да аб'ектыўных ацэнак і прывучаны хлуснёй і рэпрэсіямі да падпарадкавання і маўчання, а цяпер дэмаралізаваным яшчэ і развалам у эканоміцы, ёсць вялікая сацыяльная база для распаўсюджвання свайго ўплыву. Разумеюць цяперашнія паборнікі камунізму і тое, што вага і колькасць дэмакратычна настроеных колаў пакуль яшчэ нязначныя, грамадства толькі пачынае сваё абуджэнне ад «сну розуму», і гэта дае магчымасць ім, спекулюючы перад адной часткай грамадства на папулісцкіх лозунгах /а ў гэтым у кампартыі вялікі вопыт/, а перад другой ківаючы на дэмакратаў як на віноўнікаў усіх няўдач, праводзіць бесперашкодна сваю прапаганду сярод пластоў грамадства з рознымі ўзроўнямі палітычнага развіцця і свядомасці.

Аб ступені цынізму цяперашніх камуністычных тэарэтыкаў сведчаць хоць бы іх заявы аб тым, што яны падтрымліваюць шматукладную эканоміку /успомнім, чым закончыўся нэп і як пачыналіся калгасы/, у тым ліку і прыватную ўласнасць /гэта да якога чысла?/, але «без эксплуатацыі чалавека чалавекам».

Усе гэтыя меркаванні падводзяць да думкі аб тым, што на Беларусі рэальна існуе небяспека чарговага спаўзання ў таталітарызм. Так што рана яшчэ радавацца перамозе дэмакратыі і вынікам свабоды. Злавесная здань камунізму ўсё яшчэ блукае па нашай шматпакутнай зямлі.

**В. КАРАЛЁЎ**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

**ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:**

Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

Індэкс 63856. Тыраж 15.000.
Нумар падпісаны 10.06.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12